# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1502) ГОД XXX БЕЛАСТОК 24 ЛЮТАГА 1985 г. ЦАНА 8 зл.


БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## РОЗНЫМІ СЦЕЖКАМІ ЖЫЦЦЯ

Люблю сустракацца з нашымі людзьмі. Прыемна адчыніць брамачку на панадворак, а там атуліць цябе цяпло і прыязнасць, якія ідуць з глыбіні чыстага двара — ад хлявоў і клуні, ад яблынь і вішань у садку. Пахне сенам і малаком. Вось выхіляецца гаспадыня. Убачыла цябе, спешным крокам ідзе насустрач, здалёк усміхаецца. Пад тваімі і яе нагамі скрыпіць снег. Гаспадыня адзываецца зводдаль першая: „Заходзьце, заходзьце ў хату, пагрэйцеся!"

Заходзім, ачараваныя сардэчнасцю і гасціннасцю. У хаце прадстаўляемся, і нас просяць у пакой. Такую сустрэчу ў апошні час у адзін з марозных дзён мы перажылі, завітаўшы да дзядзькі Сільвестра Галёнкі ў Старым Беразове. А жанчынай, якая нас прывітала першай, была яго жонка Вера.

Дзядзьку Сільвестру 87 гадоў і належыць ён да тае групы беларускіх людзей, якія прайшлі складаны і драматычны шлях жыцця, але захавалі пачуццё

(Працяг на стар. 4)



## БЫЦЬ ПАТРЭБНЫМ

Пры ўваходзе ў прыватную кватэру шыльда: „Польскі саюз невідомых. Праўленне мясцовай арганізацыі ў Бельску Падляшскім". Гэта кватэра сужонства Генавефы і Зыгмунта Мысткоўскіх — людзей, якія, нягледзячы на інваліднасць, з'яўляюцца шматгадовымі грамадскімі дзеячамі. Варта пазнаёміць чытачоў „Нівы" з гэтымі людзьмі.

— Чаму гэта бюро праўлення вашай арганізацыі знаходзіцца ў прыватнай кватэры? — звяртаюся да Зыгмунта і Генавефы Мысткоўскіх.

— Перш за ўсё гэта адпавядае членам нашага саюза. Нашае ж бюро адкрыта ў кожны дзень і цэлыя суткі. Пачалося ад таго, што калісьці не было памяшкання, а цяпер жыццёвая практыка паказала, што няма патрэбы гэта змяняць, — высняюць гаспадары.

— Раскажыце, калі ласка, пра дзейнасць мясцовага праўлення.

— Праўленне было створана ў 1954 годзе. Ад таго часу і з'яўляюся старшынёй яго, а сакратаром — мая жонка, — гаворыць пан Зыгмунт. — Іншыя члены праўлення мяняліся, а мы заставаліся пасля кожных выбараў. Зжыліся мы з гэтай працай. Спачатку было цяжка. Ездзілі па раёне — трэба ж было дайсці да кожнага інваліда. Няраз даводзілася ісці зімой пяшком па некалькі кіламетраў ад прыпынка да вёскі. Не было ў цяжкія пасляваенныя гады столькіх льгот і ўспамог для інвалідаў, як цяпер. Часта розныя людзі, а то і ўстановы недаацэньвалі нашы праблемы. Трэба было пераадольваць мысленне даваеннымі катэгорыямі, што інваліды непаўнацэнныя ў грамадстве. З гадамі становішча інвалідаў у нашай краіне змянілася. Маем цяпер роз										нага роду дзяржаўную дапамогу. Трэба толькі старацца бараніць свае правы ў грамадстве. Перш за ўсё прафесіянальная праца робіць чалавека паўнацэнным у грамадстве. Цяпер у нас ёсць вытворчы кааператыў. Можна працаваць таксама ў хатніх умовах. Дык вось і роля нашага праўлення цяпер іншая. З'яўляемся прадстаўніком членаў саюза невідушчых, а таксама і іншых, хто патрабуе дапамогі. Выступаем з прашэннямі ў розных жыццёвых патрэбах. Да нас неабавязкова павінны прыходзіць самі патрабуючыя. Можа гэта зрабіць іншая асоба, хтосьці з членаў сям'і, ці апекуноў інваліда.

— Якія цяпер найбольшыя

(Працяг на стар. 2)

З рэпарцёрскіх запісак

Суддзя аб'явіў:

— Будзе разгледжана справа супраць Тоўсціка Кшыштафа, сына Станіслава і Бранiславы, пражываючага ў Крынках Беластоцкага ваяводства, абвінавачанага з артыкула 145, параграф 2, у тым, што 13 верасня 1984 года, кіруючы аўтамабілем маркі „Фіят 125"...

Не паспяваю запісваць усіх падрабязнасцей акту абвінавачання. Яго галоўны змест зводзіцца да таго, што вось гэты малады чалавек, які сядзіць за бар'ерам у кампаніі двух міліцыянераў, няўмысна давёў да смерці траіх дзяцей...

Гляджу на яго, а ў мазгах няўмольна круціцца адно слова: пірат! дарожны пірат! А ён сядзіць, апусціўшы галаву, і толькі зрэдку вачыма шукае ў зале сваіх бацькоў і сваякоў.

Згодна з уталоўным кодэксам пагражае яму 8 гадоў турэмнага зняволення.

*

Калі міліцыянеры ввялі яго ў залу, маці кінулася яму насустрач, каб абмяняцца з сынам кароткім пацалункам, за ёю вырвалася з натоўпу нейкая маладая чарнявая дзяўчына. Міліцыянер пацягнуў абвінавачанага за наручнікі і павёў яго на месца перад аблічам незалежнага але справядлівага суда, які абавязаны высветліць поўную матэрыяльную праўду гэтага трагічнага здарэння.

## ТРАГЕДЫЯ Ў АГАРОДНІЧКАХ

Толькі жыцця загінуўшым дзецям гэтая „матэрыяльная праўда" ўжо не верне, а судовы спектакль не ўціхамірыць болю іх бацькоў...

*

Ехалі з Беластока, вярталіся ў Крынкі, дзе ўсе пастаянна жылі. За шыбамі аўтамабіля асенні вецер гнуў дрэвы і гнаў па небе шэрыя хмары, амаль безупынку імжэў верасовы дождж.

За рулём вялікага „Фіята" сядзеў неспаўна 20-гадовы Кшыштаф Тоўсцік. Яго сваячка Бася рыхтавалася да вяселля і разам са сваім жаніхом Янкам выбралася ў Беласток за справунькамі. З нагоды, каб пабываць у вялікім горадзе Беластоку, скарыстала таксама і Малгажата С., сімпатыя Кшыштафа, чарнавокая, дробненькая з выгляду, але рухавая дзяўчына. Яна таксама спадзявалася неўзабаве пайсці пад вянец, вядома, са сваім каханым Кшысем.

*

Быў 13 дзень верасня, набліжалася трэцяя гадзіна пасля абеду. Маладая кампанія, задаволеная пакупкамі, мала звяртала ўвагі на акружаючы свет. Столькі сваіх вельмі важных і хвалюючых спраў накапілася ў іх, што ўсё іншае магло не існаваць.

Нарачоныя, Ян і Барбара, сядзелі ззаду, Малгоська заняла месца побач свайго хлопца і, адвярнуўшыся да маладой пары бестурботна аб чымсьці з імі шчабятала.

Кшыштаф упэўнена вёў аўтамабіль. У гэтакай кампаніі

(Працяг на стар. 4)

**НА МЯЖЫ**

## АБ КАЛЯРОВЫХ СНАХ

Хто не любіць затрымаць вачэй на квітнеючым маку? Кожнага, здаецца, захопіць яго далікатная барвовасць. Адцвіце мак, ападуць пялёсткі — і пачынаюць фармавацца макаўкі, а ў іх дробненькія зёрны маку, якія выкарыстоўваюцца для булак, для куцці і т.п.

Ад вякоў у нашых агародах квітнеў мак і ад вякоў яго выкарыстоўвалі беларусы. І, мабыць, нікому з іх не прыходзіла ў галаву думка, што мак можа стацца прычынай адной з найбольшых няшчасцяў эпохі.

У мінулым годзе, ідучы каля бандарскіх агародаў, заўважыў я зялёную макаўку, парэзаную зверху ўніз. Я здрантвеў. Няўжо праўда? Затрымаўся і дакладна прыглядзеўся да макавага палетка. Амаль кожная макаўка мела нарэз. Значыць, я не памыліўся. Пабываў тут наркаман і пашукаў стравы, якая з'яўляецца для яго крыніцай уяўнага шчасця. Калі макаўкі ўфармуюцца, наркаманы нарэзваюць іх зверху ўніз і потым, як смаляры ў лесе, якія чакаюць жывіцы, чакаюць кропелькі белага густога соку. Сабраўшы некалькі кропель гэтага соку, мяшаюць з невялікай колькасцю вады, падаграваюць, сціскаюць, на полымі зажыгалкі, і выпіваюць.

Гэтыя кропелькі выклікаюць у няшчаснага галюцынацыі, каляровыя сны, пачуццё шчаслівасці, разрыў з усімі жыццёвымі клопатамі. Такі наркаманны сеанс, у залежнасці ад таго, колькі спажыта наркотыку і наколькі аслаблены арганізм, можа трываць ад некалькіх дзесяткаў мінут, да некалькіх гадзін, а па ступені шчаслівасці ён роўны знаходжанню ў небе. Калі наркотык перастане дзейнічаць і наркаман вяртаецца да рэчаіснасці, яму здаецца, што пападае ён у пекла, у безнадзейнасць, у бясколерную змрочнасць, з якой ёсць толькі адзін выхад. Гэтым выхадам з'яўляецца новая доза кропель з макавак. Такі чалавек становіцца няздольным да фізічнай і разумовай працы, становіцца ён запарэчаннем такіх паняццяў, як дысцыпліна, адказнасць, вернасць, слоўнасць. Наркаман траціць апетыт, каардынацыю рухаў, траціць памяць. Уся яго істота, воля, імкненні ўкірункоўваюцца толькі на тое, як дастаць новую дозу наркотыку. Такія звычкі, як карцёжны азарт, зацяжное курэнне, п'янства, у істоце нішто ў параўнанні з наркаманіяй. Адзін з маладых наркаманаў, выступаючы ў тэлебачанні, сказаў: „Наркаман гэта тое самае, што выпалены ў сярэдзіне пень дрэва“. Так, думаю, што нельга больш трапна ахарактарызаваць гэты стан рэчаў...

Яшчэ некалькі гадоў таму назад нашы газеты і радыё гаварылі аб наркаманіі як аб выключнай хваробе высокаразвітых заходніх краін. Хапіла некалькіх гадоў, каб гэта хвароба дакацілася да Бандароў.

Не зразумейце мяне, чытачы,

(Працяг на стар. 11)

## БЫЦЬ ПАТРЭБНЫМ

(Працяг са стар. 1)

праблемы ў саюзе невідушчых? — пытаю.

— Перш за ўсё гэта праблемы з працай інвалідаў. У Беластоку ў вытворчым кааператыве няма месц. У Бельску працуе дваццаць асоб, а яшчэ ёсць столькі ахвотных, але няма больш магчымасцей. Цяжка купіць рэчы хатняга абсталявання. Трэба сказаць, што ў рашэнні многіх праблем нам памагае акруговае праўленне ПЗН у Беластоку.

— Як выглядае супрацоўніцтва з культурнымі і іншымі ўстановамі ў галіне арганізавання адпачынку?

— Арганізуем экскурсіі па краіне. Былі некалькідзённыя выезды аўтобусам у Варшаву, Кракаў, Асвенцім, Чэнстахову і Непакалянова. Дапамагала Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства. На жаль, іншыя ўстановы забываюць аб патрэбах невідушчых, проста не заўважаюць нас. Добра было б, каб можна было пазычаць у бібліятэцы магнітафонныя стужкі з запісам мастацкай літаратуры, — дзеляцца сваімі меркаваннямі Генавефа і Зыгмунт Мысткоўскія.

Грамадская праца з'яўляецца для іх зместам жыцця. Пані Генавефа была радным гарадской рады нарадовай у Бельску ад 1965 да 1984 г. Ад 1980 года з'яўляецца членам самакіравання кааператыва жыхароў. Шмат гадоў з'яўляецца грамадскім апекуном саюза невідушчых і інструктарам у саюзе глуханямых. Да таго пані Генавефа — член таварыства „РАХ“ і грамадскі судовы куратар. Узнагароджана шматлікімі дзяржаўнымі і грамадскімі ўзнагародамі: значком заслужанага дзеяча ФАН, сярэбраным і двума залатымі значкамі Польскага саюза невідушчых, сярэбраным і залатым значкамі „Заслужаны для Беласточчыны“, сярэбраным значком дзеяча Польскага камітэта грамадскай самапомачы (PKPS) і Залатым Крыжам Заслугі. Яе муж Зыгмунт Мысткоўскі таксама мае чым ганарыцца. Узнагароджаны бронзавым медалём за заслугі ў абароне краіны, медалём 30-годдзя Народнай Польшчы, значком заслужанага дзеяча ФАН, залатым значком Польскага саюза невідушчых, сярэбраным значком „Заслужаны для Беласточчыны“ і Залатым Крыжам Заслугі. Апрача грамадскай дзейнасці, пан Зыгмунт, хаця цалкавіта невідомы, працуе рамеснікам.

Жыццё гэтым людзям не паскупіла цяжкіх выпрабаванняў. Пані Генавефа не памятае сваёй маці. Страціла яе зусім яшчэ маленькай. Дзяцінства і маладосць правяла сіратой у цяжкіх умовах даваеннай рэчаіснасці ў вёсцы каля Коніна. Ваенныя гады перажыла, раздзяляючы гора мільёнаў палякаў на Падкарпацці. Змаганне за жыццё адабрала ў маладой жанчыны здароўе. Пасля вызвалення вярнулася ў свае родныя старонкі, аднак тут не было добрых перспектыў. Не стала блізкіх людзей. Вось тады адазваліся добрыя знаёмыя з Гайнаўкі, і ў 1946 годзе пані Генавефа прыехала на Беласточчыну і тут засталася жыць. Тут сустрэла маладога хлопца з вёскі Тапчэва, што на Бельшчыне, — цяперашняга свайго мужа. Зыгмунт Мысткоўскі ў час вайны змагаўся з нямецкімі захопнікамі ў радах сялянскіх батальёнаў. Ад выбуху варожага снарада, які трапіў у партызанскі бліндаж, страціў зрок, правую руку і на цэлае жыццё стаў інвалідам ва ўзросце няпоўных дваццаці гадоў. Вайна забрала і бацькоў: маці загінула ў фашысцкім канцлагеры, а бацька, цяжка паранены, памёр на вайне. Нягледзячы на такія няшчасці, малады тады яшчэ хлапец не паддаўся свайму лёсу. Пачаў змагацца за жыццё.

Двое людзей, перажыўшы ўсе непрыхільнасці лёсу, стварыла па-свойму шчаслівы дом. Выхавалі дзяцей, радуюцца ўжо ўнукамі і, хаця рэха перажытых гадоў грукае ў сэрцах, то цешацца сваім жыццём. Жывучы па суседску, заўсёды адчуваю іх ветлівасць да людзей і добразычлівасць. Калі цяпер пытаю іх, што хочуць сказаць „Ніве“, то яны з пэўнай гордасцю і задавальненнем гавораць:

— Хочам, каб людзі да нас прыходзілі і не толькі як да дзеячоў праўлення ў саюзе невідушчых, але проста так, як бліжні да бліжняга. Падзяліцца жыццёвымі справамі, пагутарыць аб радасцях і турботах.

— На Бельшчыне палякі і беларусы жывуць побач. Сярод членаў саюза невідушчых таксама ёсць людзі розных нацыянальнасцей. Мае гэта нейкі ўплыў у вашым жыцці, грамадскай працы? — кранаю тэму сужыцця.

— Для нас няма ў гэтым розніцы. Перш за ўсё кожны ёсць чалавекам. У нашай мясцовай арганізацыі многа беларусаў. Адносіны ў нас вельмі добрыя. Таксама і ў жыцці няма па той прычыне непаразуменняў. Зрэшты, што тут гаварыць, то ж і мы з вамі суседзі. Каб толькі ўсе так жылі, — адказваюць мне.

Трэба пацвердзіць сказанае, бо сапраўды суседзі Генавефа і Зыгмунт Мысткоўскія — добрыя людзі. Да таго можна ў іх павучыцца ў пераадольванні жыццёвых цяжкасцей. Іх пастава з'яўляецца доказам таго, што жыццё наша можна зрабіць карысным і радасным нават тады, калі яно здаецца невыносным. Трэба проста любіць яго і быць патрэбным людзям.

**Ян Мордань**

## ДЭБЮТ ДУДАРАВА Ў КІНО

На экраны польскіх кінатэатраў уваходзіць новы беларускі фільм „Белыя Росы“, пастаўлены ў 1983 г. на кінастудыі „Беларусьфільм“ рэжысёрам Ігарам Дабралюбавым. Фільм гэты ў Савецкім Саюзе карыстаецца ўжо вялікай папулярнасцю сярод гледачоў. У мінулым годзе атрымаў узнагароду за найлепшы фільм на XIII конкурсным аглядзе фільмаў кінастудыі „Беларусьфільм“, пастаўленых у 1983 г. Узнагароджаны таксама спецыяльным прызам за сцэнарый і за найлепшую мужчынскую ролю (Усевалад Санаеў) на XVIII Усесаюзным кінафестывалі ў Кіеве.

Сцэнарый фільма напісаў вядомы нам малады драматург Аляксей Дудараў, п'есы якога „Выбар“, „Вечар“ ці „Парог“ паказваюць зараз у многіх тэатрах СССР. Гэта яго дэбют у кіно. Трэба дадаць — вельмі ўдалы.

Рэжысёр „Белых Росаў“ польскім гледачам наогул мала вядомы. Паставіў ён некалькі фільмаў, з якіх у ПНР распаўсюджваўся толькі адзін — „За фронтам“. Здымкі „Белых Росаў“ рэалізаваў Рыгор Масальскі. Музыку напісаў Ян Фрэнкель.



Аляксей Дудараў у час пабыўкі ў Беластоку. Фота М. Гайдука.

Белыя Росы — гэта назва беларускай вёскі, якая ляжыць на ўскраіне горада, асуджанай цывілізацыяй на няўхільнае знішчэнне — усмактанне гэтым жа горадам. У пейзаж такой вёскі аўтары фільма ўпісалі гісторыю чатырох мужчын — бацькі і яго трох сыноў. Хвядос Ходас (ролю выконвае Усевалад Санаеў) — патрыярх роду — з'яўляецца вельмі паважаным жыхаром вёскі. Усе яго любяць, усе з ім лічацца. Сыны Хвядоса, на жаль, зусім іншыя, чым бацька. Найстарэйшы, Андрэй (Генадзь Гарбук), жанаты, але бяздзетны, думае толькі пра грошы, не саромiцца нават гаварыць пры бацьку аб спадчыне пасля яго смерці. Сярэдні сын, Сашка (Міхал Какшэнаў), пятнаццаць гадоў працуе на Далёкім Усходзе — на Курыльскіх астравах. Лянівы з натуры, не надта разважны, халасты, ніколі не наведаў роднага дома. Наймалодшы, Васька (Мікалай Карачэнцаў) — гэта вясковы весялун і свавольнік. Хаця мае для бацькі шмат сэрца, спраўляе яму адначасова многа клопату. Дрэнна жыве таксама з сваёй жонкай Марусяй (Галіна Польскіх), маці яго любімай дачанькі Галі.

Калі стары Хвядос даведваецца, што Белыя Росы будуць зраўнаны з зямлёй, а жыхары пяройдуць жыць у гарадскія блокі, склікае сыноў на сямейную нараду. Пакуль прыедзе Сашка, Хвядос размаўляе аб пераездзе з Андрэем і Васькам. Андрэй бароніць выключна сябе. Васька думае перш за ўсё пра бацьку, хаця яго ўласныя справы ідуць штораз горш (Ма-

(Працяг на стар. 6)

Характэрным праявам хрысціннага абраду было важэнне па панадворку кума і кумы на баране. Амаль ва ўсіх вёсках акт гэты выступаў пад канец хрысцін. Не мела значэння, адбываліся хрысціны зімой ці летам.

Звычай меў наступны характар. Госці пакідалі хату, выносілі з пуні або шопы драўляную барану, паварочвалі яе ўверх зубамі. На зубы кідалі сена і салому, у сваю чаргу сена і салому прыкрывалі шматамі або кажухом. Да бараны прымацоўвалі бурчык з пастронкамі. У пастронкі ўпрагаліся наймацнейшыя, на барану садавілі кума і куму і пад аглушальны акампанемент сабраных бегалі вакол панадворка, а калі панадворак быў вузкі, беглі ў канец панадворка і назад. Пры гэтым узнімалі хмары снегу (калі гэта было зімой), або пылу (калі абрад адбываўся летам). Нярэдка пры раптоўных паваротах звальваўся з бараны кум або кума ці нават абое разам. Зразумела, што гэта выклікала дадатковыя выбухі смеху. Здаралася, што падпіўшыя госці валіліся ад ап'янення і смеху ў снег або пясок ці траву.

У істоце амаль ніхто са старэйшых жыхароў усходняй Беласточчыны не ўмее выясніць сімвалічнага значэння гэтага акту. Аднак некаторыя з іх гавораць, што абрад гэты меў запэўніць нованароджанаму высокія ўраджаі ў будучым гаспадаранні. Выкарыстанне ў абрадзе бараны і прыём „баранавання“ панадворка, бадай, пацвярджае слушнасць такой інтэрпрэтацыі абраду.

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Мы ўжо гаварылі аб прысутнасці матыву эратычнай свабоды ў хрысцінным фальклоры і хрысцінным абрадзе. Момант гэты пацвярджае і сучасны беларускі фальклярыст Н. Гілевіч:

„Бадай, ні ў якіх іншых абрадавых песнях не дапускаецца столькі намёкаў эратычна-фальклорнага характару, як у радзінных. Праўда, што намёкі даюцца ў вобразнай форме з пачуццём такту, досыць тонка і далікатна, не абразліва для слуху: адным словам, так, як гэта ўмее рабіць народ адпаведна з сваім здаровым маральным устоем і высокім эстэтычным густам“.

Прызнаючы поўную рацыю першай часткі прыведзенага вываду Гілевіча, можна было б сумнявацца ў аб'ектыўнасці другой часткі. Справа ў тым, што многія тэксты хрысцінных песень, а таксама свабодныя паводзіны хрысцінных гасцей сведчаць аб тым, што ў хрысцінным рытуале маем час ад часу дачыненне з пэўнымі амаральнымі праявамі. Зрэшты, сказанае не падважае агульнага сэнсу выказвання Н. Гілевіча.

Варта заўважыць, што ў часе хрысцін спявалася не мала песень агульнабытавых, сацыяльных, а таксама тэкстаў, утрыманых у нормах балады.

Цікавы прыклад такой менна балады паходзіць з раёна Крынак.

У зялёнай дуброве Коля сена
косіць.
А ему жоначка дзеціну
прыносіць:
— Ой, Коля, мой Коля, на
табе дзеціну,
Як не хочэш браці — на
пракосы кіну.
— Ой, жонко, ой жонко,
забірай з сабою,
Як не хочаш браці — зарэжу
касою.
У цёмнай каморы Коля лісты
піша,
Праваю нагою дзецінку
калыша.
Ой, люляй, ой люляй,
ой люляй, мой сыне.
Праз цябе, мой сыне,
гаспадарка гіне.

Нягледзячы на выяўлены ў прыведзеным тэксце песні сумны настрой, трэба падкрэсліць, што агульная танацыя радзільна-хрысціннага фальклору належыць да вясёлых, аптымістычных і радасных. І гэта цалкам зразумела. Паяўленне ў сям'і новага яе члена найчасцей суправаджалася верай у яго добры лёс і шчаслівую будучыню. Якраз такога тыпу вера акрэслівала характар як песень, так і абрадаў, якія складалі радзільна-хрысцінны спектакль беларусаў з усходняй Беласточчыны.

**А. Баршчэўскі**

# ДАРАГІЯ ГОСЦІ

Як мы ўжо паведамлялі, на святкаванне 20-й гадавіны бельскіх „Васілёчкаў“ прыехаў з далёкай Смаргоні (БССР) народны ансамбль песні і танца імя Агінскага. Дарагія беларускія госці не толькі ўпрыгожылі юбілей „Васілёчкаў“, але таксама выступілі з канцэртамі для жыхароў Бельска і Гайнаўкі. Тут і там — з вялікім поспехам. На здымку: у час юбілейнай урачыстасці ў Бельску смаргонскім гасцям быў уручаны ад „Васілёчкаў“ сувенір.

Фота Е. Хаманюка.



## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# ВЕЧАВАЯ КРАМОЛА

Панаванне князя Валадара Глебавіча ў Берасцейскім княстве не магло падабацца яго паўднёвым і заходнім суседзям па многіх прычынах.

Яно абазначала далучэнне гэтай вялікай, заможнай і з густым насельніцтвам тэрыторыі да ўладанняў князёў мінскіх, якія выводзілі сваё паходжанне са старажытнай княжацкай дынастыі крывіцкіх Рагвалодавічаў — непадатлівых спрадвечных абаронцаў незалежнасці Полаччыны ад Кіева і буйна разрослай плоймы нашчадкаў першых князёў кіеўскіх. А якраз да спадчыннікаў вялікіх князёў кіеўскіх належалі таксама князі валынскія і яны зайздросным вокам пазіралі на набытак князёў крывіцкіх на Пабужжы і Панароўі. Затым Валадар Глебавіч абапіраўся не толькі на ваеннай сіле Берасцейшчыны і Міншчыны, але перш за ўсё на саюзнай яму Літве, з якой у Полацка, Меньска, Віцебска, Горадні і іншых сталіц паўночна-ўсходніх княстваў былой Старарускай дзяржавы ўсё болей мацнелі палітычныя, гаспадарчыя і культурныя сувязі. Такім чынам на аграмадным абшары Падзвіння, Верхняга Падняпроўя, Панямоння, Панароўя і Пабужжа пачалі паяўляцца кволыя парасткі новай сілы — будучага Вялікага княства Літоўскага. Праўда, яна яшчэ была рассыпаная на дробныя княствы, воласці, землі, гарады і ўсё гэта перасваранае, несфармаванае і несвядомае свае моцы. Аднак яе паўставанне інстынктыўна адчулі суседзі, у іх ліку Валынь, Малапольшча, Мазоўша. Да таго на падпарадкаванне Берасцейскага княства сваім уплывам меў таксама ахвоту кракаўскі князь Казімір Справядлівы. Ён быў блізкім сваяком князёў валынскіх (яго сястра Агнешка была жонкай князя валынскага Мсціслава Ізяславіча, значыць князі Святаслаў чэрвеньскі, Раман уладзімірскі, Усевалад белзскі і рана памёршы Уладзімір берасцейска-дарагічынскі прыходзіліся Казіміру пляменнікамі). Апрача гэтага былі яшчэ і іншыя прычыны, пра якія і пойдзе наша гаворка.

Мабыць, пры заахвочанні Казіміра князь чэрвеньскі Святаслаў Мсціславіч рушыў на Валадара Глебавіча, каб выбіць яго з Берасцейскага княства. На жаль, летапісцы не аднатавалі ні часу, ні месца бітвы палкоў берасцейскіх супраць нашэсця з поўдня і захаду. Бітва была жорсткая і ў ёй, відаць, страціла жыццё або трапіла ў няволю многа берасцян. Загінуў таксама Валадар Глебавіч, бо пасля 1182 года (прыблізнай даты бітвы) знікаюць усе звесткі пра гэтага адважнага нашчадка легендарнага Рагвалода.

На берасцейскае княжанне сеў Святаслаў, але не надоўга. Агульную непрыхільнасць берасцян да валынян і малапалян паглыбіла цяжкая даніна, якою абклаў заваёўнік Берасцейшчыну. Берасцяне, як толькі акрыялі пасля паражэння, адразу сталі рыхтавацца да паўстання. Пра гэтыя падзеі чытаем у Kronice Wielkopolskiej: „Zdarzyło się, że miasto ruskie Brześć wypowiedziawszy posłuszeństwo Kazimierzowi odmówiło mu składania zwykłych danin i przygotowało się zbrojnie do stawiania oporu Kazimierzowi”.

Далей ход падзей, мабыць, быў наступны. Калі ўсё было гатова, узброены народ склікнуўся на веча-сход, выбраў военачальнікаў і рынуўся на княжацкі палац-церам ды крэпасць. Атака ўдалася: Святаслаў з

(Працяг на стар. 4)



## ПРАЦА З ГУРТКАМІ

Дзевятнаццатага студзеня ў беластоцкім радыё на беларускай мове выступіў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Гаварыў аб працы з гурткамі.

Тэма важная і цяжкая ў ажыццяўленні.

Доктар А. Баршчэўскі бачыць усё ясна. Мае рацыю, калі гаворыць, што добра будзе працаваць ГП тады, калі добра будуць дзейнічаць гурткі ў вёсках (у гарадах гэта выглядае лепш). Але як гэта здзейсніць?

Ніхто так не ведае гурткоў у нашых вёсках, як тыя, хто ездзіць туды, хаця б час ад часу. Грамадскія арганізацыі добра дзейнічаюць там, дзе маюць нястомных актывістаў і адпаведную базу. А пасля ўжо падтрымку вышэйшых і кампетэнтных улад.

Што я называю базай? А тое, што паэтычна называецца святліцай, а празаічна памяшканнем, дзе можна было б з людзьмі пакалякаць і пасля пратаўчыся да нейкага аўтобуса або цягніка. Не ўсе ж маюць у кожнай вёсцы сваякоў, як Віктар Швед, а па-другое, калі мы будзем вельмі часта начаваць у сваякоў, то сваякі будуць думаць, як нас пазбыцца, ну, бо ж кожны раз трэба даць пасцель і паесці. А як паесці (такая ўжо мода), дык і выпіць, а гэта каштуе.

Ну, але каб не цягнуць думкі тэарэтычна, прывяду адзін прыклад са сваіх вандровак. Аднойчы зімою паехалі мы па вёсках адбыць сустрэчы з гурткамі БГКТ. Развозілі нас школьным аўтобусам. Раённы інструктар інфармаваў, да каго трэба зайсці.

Зайшоў я ў „сваёй" вёсцы да названае асобы, а той мяне завёў у „святліцу". У першым пакоі дзверы паломаныя і шыбы выбіты. Холад і нават да печы рук не прытуліш, бо яшчэ халаднейшая, чым паветра. Топчуцца хлопцы ў кажухах і валёнках, і я з імі скачу. Чакаем, пакуль у другім пакоі скончыц-

(Працяг на стар. 6)

# РОЗНЫМІ СЦЕЖКАМІ ЖЫЦЦЯ

(Працяг са стар. 1)

асабістай годнасці, унутранай чысціні, светласць розуму і тыповую старэйшым беларускім людзям дыялектычную здольнасць аналізу і сінтэзу, значыць, уменне раскладаць і складаць факты і здарэнні жыцця і рабіць такія вывады, каб усюды і ва ўсім выяўляць гарманійнасць свету.

Мой Божа, якая цудоўная рэч! Колькі разоўназіраю і вучуся гэтаму майстэрству!

Твар Веры Галёнка свеціцца такім маладым святлом, што не асмельваюся пытаць пра яе ўзрост — маладая і годзе! Прысела на зэдліку, пагодліва слухае разам з намі цікавы расказ мужа.

А дзядзька Сільвестр, давядаўшыся, што мы з „Нівы", бярэ са стала яе апошні нумар і, папрасіўшы не гневацца, адкрывае газету і пачынае: во тут на здымку жонка дзядзькі Кваса і яго ўнучак, таксама Сільвестар, як і я. А цяпер гляньце ў „Каляндар „Нівы". Дзе тут Сільвестар? Павінна быць 2 студзеня па старому стылю, 15 — па новаму, а няма. Адказваю, што напісаць усе імёны не было б месца. А дзядзька: але я дакладна прачытаў каляндар і палічыў: Сяргей паўтараецца тры разы.

У далейшым вяртаецца на першую старонку і пытаецца, паказваючы на малюнак, што гэта такое (глядзі здымак). Кажам, што гэта малады лес зімою. Дзядзька гаворыць, што можа маладыя ўбачаць тут лес, але ён тут лесу не бачыць.

*

„Ніву" дзядзька Галёнка чытае ад пачатку дакладна і набажна. Аналізуе ўсё напісанае. „Бабскія фокусы" асуджае сурова: нельга нашых беларускіх жанчын прадстаўляць такімі дурнымі, „воны ж не е такіе" і гаворачы гэта, глядзіць на жонку Веру. Не падабалася дзядзьку і тое, што такія брыдкія артыкулы падпісаў нехта „Сульвестар". Занепакоеная, тлумачу, што гэта іншы Сільвестр, з другога канца Беласточчыны. Дзядзька ўсміхаецца і просіць больш так не рабіць.

Сільвестр Галёнка належыць да таго пакалення беларускіх людзей, якім давялося ў вельмі маладыя гады адправіцца ў шырокі і зусім нязнаны свет, у „глыб Расіі". І калі так расказвае ён аб сваім вялікім падарожжы на ўсход, родзіцца думка, што так званае ў нас „бежанства" ў першую вайну людскіх масаў з беларускіх вёсак

# ТРАГЕДЫЯ Ў АГАРОДНІЧКАХ

(Працяг са стар. 1)

каталіся яны ўжо не першы раз. З Крынак у Беласток цераз Супрасль і Сакалду — 45 кіламетраў шасейнай дарогі, на якой многа крутых паваротаў і ўзгоркаў. Малады вадзіцель ведаў тут кожную калдобіну. Сябрам хваліўся, што хопіць яму сарака мінут часу, каб быць у Беластоку.

*

На шашы з Беластока ў Крынкі, між Беластокам і Супраслю, знаходзіцца вёска Агароднічкі. Дамы тут стаяць даволі густа, а вуліца ўкладваецца ў два крутыя павароты. За адным з гэтых паваротаў, дзе ад шашы адыходзіць дарога ў вёску Цяснае, знаходзіўся аўтобусны прыпынак. Там сабралася гаманлівая грамадка дзяцей, якія пасля заняткаў у школе і прадшколлі чакалі свайго аўтобуса.

Раптам у вёсцы адазвалася сірэна. Малышы з зацікаўленнем адвярнулі галовы, каб пабачыць, дзе і што сталася. Ніхто, аднак, не бачыў ані агню, ані дыму. Затое з-за павароту паявіўся сумны паход людзей, якія ў апошнюю дарогу праводзілі аднаго з старэйшых і заслужаных членаў Саюза добраахвотных пажарных каманд. Дзеці інстынктыўна ўціхаміраліся і моўчкі правялі гэтае пахавальнае шэсце. Ды зноў загаманілі, заняўшыся сваімі справамі. Аўтобус, які меў іх забраць, чамусьці спазняўся. Дзеці ўжо прывыклі да гэтага. Толькі імжлівы дождж псаваў ім асалоду ад бестурботнай гульні.

*

Сярод гэтай гаманлівай групкі дзяцей знаходзіліся: сямігадовая **Аня Супронік**, шасцігадовая **Магдалена Ругень** і пяцігадовы **Андрэйка Януцэвіч**. Адкуль было ім ведаць, што гэта апошнія хвіліны іх жыцця?

— Нашу Аню мой муж, Барыс Супронік, уласнымі рукамі выцягнуў з-пад калёс гэтага „Фіята", — цераз слёзы, дрыжачым голасам гаворыць заплаканая маці, якая 13 верасня 1984 года не дачакалася свайго дзіцяці са школы. — Як бы прадчуваў, што здарыцца трагедыя, і ў гэты момант якраз паявіўся на прыпынку...

Іншая жанчына, у чорнай жалобнай вопратцы, заяўляе:

— А яшчэ траіх іншых дзяцей лекары ледзь адратавалі. Колькі болю і страху давялося ім перажыць і выцерпець! Да канца жыцця яны гэтага не забудуць!

— Ды ім што?! Пракаціліся! Каб і ў пекле месца сабе не знайшлі! — загаласіла трэцяя маці загінуўшага дзіцяці, паказваючы на групку маладых пасажыраў Тоўсцікавага „Фіята", якая трымалася разам на судовым калідоры.

*

Падыходжу да бацькоў абвінавачанага. Пан Станіслаў, заўчасны, 59-гадовы пенсіянер, кажа, што мае за сабою 30 гадоў працы ў Крынкаўскай гарбарні.

— А цяпер такая бяда, такая трагедыя! — гаворыць ён збалелым голасам. — Кшыштаф — наш наймалодшы сын, які астаўся дома. Старэйшыя дзеці

(Працяг са стар. 3)

# ВЕЧАВАЯ КРАМОЛА

рэшткамі свае дружыны ўцёк у Чэрвень, а адтуль „побеже" да дзядзькі ў Кракаў за дапамогай.

У Берасцейскім княстве лішне не трыумфавалі, але таксама пачалі разглядацца за падтрымкаю. Кіраваліся найважнейшым правілам палітыкі ўсіх часоў: вораг майго ворага — гэта мой першы прыяцель. І падаліся ў Белз да князя Усевалада — заядлага ворага свайго роднага брата Святаслава. Але і самі не сядзелі склаўшы рукі. Сцягнулі з усяго княства ў сталіцу ўсіх, хто толькі змог трымаць кап'ё, пераўтварылі Бярэсце ў непрыступную крэпасць. А непрыяцеля берасцянам доўга чакаць не прыйшлося.

Казімір на чале аб'яднаных войск — польскіх з ваяводам Мікалаем і чэрвеньскіх з князем Святаславам — перайшоў Буг, ударыў на Бярэсце і... мусіў адступіць. Мужнасць берасцян і магутнасць умацаванняў аказалася вышэй усялякіх спадзяванняў. Рашылі браць яе зморам — сціснулі шчыльным кальцом аблогі ды раз за разам ішлі прыступам на сцены. Але ўсе атакі берасцяне ўдала адбівалі. І сярод аблягчаючых успыхнуў бунт: вoі не хацелі ісці ў бой на пэўную смерць. Князям ды ваяводам давялося заняцца выкрываннем падбухторшчыкаў і ўціхамірваннем раззлаванага войска. Але вэрхал суцішыўся, калі ўсе ўбачылі палкі, якія вёў на дапамогу Бярэсцю Усевалад белзскі. Знямоганыя аблогай берасцяне радаваліся на пэўную перамогу, аднак заўчасна.

Небяспека згуртавала аблягаючых. Паводле польскага гісторыка Яна Длугаша, які карыстаўся летапісамі, хронікамі і іншымі не дайшоўшымі да нашага часу крыніцамі, бітва разыгралася ў вілах рэк Буга і Мухаўца. Князь Казімір і ваявода Мікалай адну частку войска накіравалі да аблогі Бярэсця, а другую падзялілі на два флангі і паставілі супраць наступаючых палкоў Усевалада. Правы фланг узначаліў Казімір, а левы — Мікалай. Спачатку верх бралі Усеваладавы палкі: левы фланг пачаў адступаць пад націскам рускіх лучнікаў. Тады яму ў дапамогу Казімір кінуў рэзервы і лучнікаў удалося паўстрымаць. У той жа час ён загадаў свайму флангу наступаць. Усеволодавы палкі захісталіся. Страціўшы большасць вояў, якія загінулі на полі бою, у хвалях ракі або трапілі ў палон, Усевалад з рэшткамі сваіх палкоў паспешліва падаўся ў Белз.

Разам з паражэннем Усеваладавых палкоў прапала ў берасцян надзея на якую-небудзь дапамогу. Але яны не палі духам: яшчэ нейкі час адчайна адбівалі заядлыя прыступы аблягаючых. Аднак сілы абаронцаў радзелі, слабелі і Бярэсце пала. Здабыўцы крывава расправіліся з усімі, хто прымаў удзел у паўстанні. Хваля праследаванняў, якімі кіраваў Святаслаў, захліснула не толькі горад, але пракацілася па ўсяму княству. Гінулі найлепшыя. Усё ж берасцяне не падаліся, не скарыліся. Калі з волі Казіміра ненавісны ім Святаслаў зноў стаў князем берасцейскім, яны падсунулі яму смяротную атруту. Княжыў ён усяго некалькі дзён і сканаў у страшэнных муках.

Узнікае пытанне: чаму змена князя ў Бярэсці была такой жорсткай і крывавай. З усяго відаць, што яе прычына была ў тых грамадскіх пераўтварэннях, якія да таго часу наступілі на Берасцейшчыне. Дзякуючы яе буйнаму гаспадарчаму развіццю, асабліва росквіту гандлю і рамёстваў, вырасла тут

на ўсход сталася, нягледзячы на цяжкасці таго часу, значным цывілізацыйным фактарам. Людзі адкрылі іншы свет, іншых людзей, іншае жыццё, акунуліся ў рэвалюцыю і сталіся саўдзельнікамі вялікіх дзён, якія „ўскалыхнулі светам". І многаму навучыліся. Дзядзька ў 18 гадоў быў „маскоўскім рабочым", працаваў у адной з маскоўскіх друкарняў. Быў бурлівы семнаццаты год. У Маскве адбываліся дэманстрацыі і мітынгі. Атрымаўшы аднойчы пропуск ад завадскога камітэта рабочых, пайшоў і дзядзька на мітынг. Выступаў Троцкі ў „Серігеўскім доме". Пасля выступлення быў звычай падаваць на картачках пытанні дакладчыку. Нехта запытаўся, ці праўда, што бальшавікі, калі возьмуць уладу, знішчаць буржуяў. Адказ дзядзька помніць дакладна: „А мы их не будем уничтожать, мы их перевоспитаем".

Іншы цікавы факт. Калі цар адрокся ад прастола і настала „Временное правительство", аб'явілі выбары ў „Учредительное собрание". Дзядзька помніць, што было пяць выбарчых нумараў пяці партый. 3 нумар — сацыял-рэвалюцыянеры — эсэры, 4 — меншавікі, 5 — бальшавікі. Першы і другі нумары — гэта былі кадэцкія партыі. Яны не цікавілі дзядзьку.

Як з карты, чытае дзядзька распалажэнне вялікіх гарадоў, губерняў, воласцяў, сёлаў і станцый, праз якія праязджаў і ў якіх прабываў. Вялікі кавалак зямлі пазнаў, багата навучыўся, многае зразумеў. Вярнуўся на родныя папялішчы з той самай, аднак, душой, якую адусюль цягне да сваіх.

Прыехаў у Гайнаўку з карзінаю. Пакінуў яе ў знаёмага і пайшоў у Старое Беразова. Самым галоўным у знішчанай вёсцы быў конь. А коней не было. Пачуў, што коні прадаюцца ў Ковелі (200 вёрст?). Удваіх з суседам рызыкнулі. Пакуплялі коней і адтуль пехатою ў вялікі, як сёння мароз, прыйшлі дадому. Спачатку жабравалі і сабе, і каню. Але свет не без добрых людзей, пражылі. Пачалі абрабляць аблагі. І памалу рушылі наперад.

Другі раз дзядзька ўжо з жонкай зноў пачынаў ад нуля, было гэта пасля другой вайны. Старое Беразова ўжо ў пачатку вайны было спалена немцамі. Галёнкі зрабілі буду і так жылі. Толькі ў Піліпаўку паставілі ў будзе печку.

У дзядзькі мноства кніг — рускія і беларускія, найбольш рускіх. Вялікія Талстой і Дастаеўскі ў асобай пашане. Між кнігамі ёсць адна асаблівая. „Благаславенне дзеда з Пасечнікаў, падарыў мне ўміраючы". Гэта славянская Біблія, вялікага фармату, вельмі старанна захаваная, з часоў імператара Аляксандра Нікалаевіча, як напісана ў прадмове (Аляксандра II), у годзе ад Ражджаства Хрыстова 1872. Дзядзька добра чытае па-стараславянску і без акуляраў.

**Вера Леўчук**
Фота Я. Чэрнякевіч

выехалі з Крынак. Таму і купіў я гэты аўтамабіль, каб нечым яго прывязаць да нас. Збіраўся жаніцца, давучваўся на прафесіянальных курсах...

Размова рвецца, відаць, бацька перажывае. Я звяртаюся да чарнавокай дзяўчыны.

— Ну і што, патрацілі вы хлопца?

— А я буду чакаць яго! — рашуча, з перакананнем заяўляе Малгажата. — Ён жа ў нічым не вінаваты. Гэтакае няшчасце можа здарыцца з кожным... Я буду чакаць...

✲

Каля аўтобуснага прыпынка „Фіят 125", за рулём якога сядзеў Кшыштаф Тоўсцік, а побач — яго вясёлая кампанія, пераехаўшы лужыну, пачаў танцаваць на дарозе. Шафёр не сумеў авалодаць рулём. Машына адбілася ад стаўба, дарожнага ўказальніка і ўрэзалася ў грамадку дзяцей, чакаючых свайго аўтобуса.

Судовы эксперт аблічыў, што ў момант катастрофы хуткасць аўтамабіля даходзіла да 86 кіламетраў у гадзіну. Хуткасць шалёная, нават пры нармальных умовах на адкрытай сухой дарозе А тут крутая вясковая вуліца і дождж. Безадказная дурнота, якая закончылася трагедыяй.

✲

24 студзеня 1985 года Раённы суд у Беластоку аб'явіў прыгавор: **Кшыштафу Тоўсціку пяць гадоў турэмнага зняволення і 10 гадоў забароны вадзіць якія-колечы аўтамабілі.** Ён таксама абавязаны заплаціць усе судовыя кошты.

У вачах бацькоў загінуўшых і пакрыўджаных дзяцей выразна малявалася незадавальненне. Суддзя паясніў, аднак, што забойства было няўмыснае, а злачынца зразумеў сваю віну і выказаў перад судом глыбокае пакаянне...

Сапраўды, ён нават у пакрыўджаных бацькоў прасіў прабачэння! І не была, здаецца, гэта хітрая гульня, каб змяніць суд

Прыгавор можна яшчэ абжалаваць у Ваяводскім судзе. Трагедыя ў Агародніčках павінна стаць, аднак, перасцярогай для іншых, каб такія вадзіцелі, як Кшыштаф Тоўсцік, не забываліся, што аўтамабілем таксама лёгка можна забіць чалавека, як і зброяй.

**Віктар Рудчык**




### ПАЖАДАННІ

*Уладзіміру Малашкевічу*

Мінула, дружа, сорак пяць.
Чаго ж тады магу жадаць
Табе ў жыцця другой палове?
Найперш дык добрага здароўя,
Здароўе — усяго залог.
Няхай працяг тваіх дарог
Будзе больш гладкі, менш
цярністы,
Дзень юбілейны, урачысты,
Няхай жа твой адменіць лёс.
Жадаю, каб табе прынёс
Ён безліч творчага натхнення,
Каб ты знаходзіўся ў гарэнні,
Быў заўжды з музай
за пан-брат,
Каб шчасця меў больш
у дзяўчат.
Яны ж натхненнем нам таксама.
І каб заўсёды быў з сябрамі —
Рэліктам сёння верны друг.
Жадаю ў годзе — кніжак дзвюх,
А потым — цэлую паліцу.
Няхай табе Варшава сніцца
(Зрабіла ў сэрцы тваім след),
А часам мо і Віктар Швед.

**Віктар Швед**

моцнае баярскае, купецкае і рамесніцкае асяроддзе, а таксама была значная колькасць вольнага працоўнага люду. Гэтая значная грамадская сіла дамагалася для сябе ўсё большага ўплыву на палітыку горада і княства. Яе імкненні выліваліся ва ўсё большую ролю веча — агульнага сходу ўсіх паўнапраўных мужчын — у вырашанні найважнейшых спраў сталіцы і ўсяе дзяржавы-княства. Узорам для берасцян былі ўсеўладныя вечы ў Ноўгарадзе Вялікім, Пскове, Полацку і іншых вялікіх усходнеславянскіх гарадах. Там вечы вырашалі справы вайны і міру, выбіралі і пазбаўлялі пасада князя, епіскапа, военачальнікаў і іншых чыноўнікаў, яны былі найважнейшым судом, абмяркоўвалі справы гандлю і шэраг іншых. Запрошаны вечам на пасад князь мусіў прыняць пастаўленыя яму патрабаванні і прысягаў старанна іх выконваць. Веча мела аграмадную вайсковую сілу — народнае апалчэнне. Калі веча патрабавала, каб князь уступіў з пасада, ён мусіў гэта зрабіць, бо яго дружына не была ў сілах супрацьставіцца ўзброенаму люду.

Мабыць, такім запрошаным берасцейскім вечам і быў князь Валадар Глебавіч. Яго любілі і шанавалі берасцяне, бо ён падпарадкаваўся волі веча. Ваюючы супраць яго і імкнучыся скарыць Бярэсце, навакольныя князі на чале з Казімірам змагаліся перш за ўсё з „вечавой крамолай", каб яна не пранікла ў іхнія ўладанні. Кожны ж з іх адчуваў сябе неабмежаваным самадзержцам і рабіў усё, каб не дапусціць да голасу пагарджаных імі падданых „людзей".

Значыць, не толькі таму, што Бярэсце мела вялікае вайсковае і гаспадарчае значэнне, Казімір хацеў трымаць на ім сваю руку. Дзеля гэтага побач з горадам загадаў пабудаваць магутную крэпасць і паставіў у ёй польскі вайсковы гарнізон. А ў бруднай справе ачышчэння Берасцейшчыны з вечавага руху выручыўся сваім пляменнікам — князем уладзімірскім Раманам, якому перадаў Берасцейскае княства. Раман вылучаўся жорсткасцю і непаўстрыманымі амбіцыямі самаўладнага правіцеля. Гэта ж яго наўгародскае веча прагнала з ганаровага пасада князя Ноўгарада Вялікага!

Можна сабе ўявіць з якой заўзятасцю вынішчаў ён усё, што хаця б чым-небудзь нагадвала „вечавую крамолу". Ад яго і павялася прымаўка: не падушыўшы пчолаў, мёду не есці. Ну і, вядома, не ашчаджаў ён жыцця насельнікаў Берасцейшчыны. А для поўнага апанавання ёю выводзіў масава насельніцтва і рассыпаў яго па Уладзіміршчыне, на месца выведзеных пасяляў уладзімірцаў. Так была не толькі скорана і разграблена заможная і вольналюбівая Берасцейшчына, але і пачынаўся той працэс перамяшання на ёй дрыгавіцкага і валынскага насельніцтва, сляды якога відаць і сёння.

**Мікалай Гайдук**

## З маёй званіцы

# ГІГІЕНА

Выйшла з друку кніжка аб асабістай гігіене ў „Сярэбраным стагоддзі", значыць, за панавання Вазаў.

Калі я, у свой час, на старонках „Нівы" заняўся справай асабістай гігіены, меў і такія заўвагі: „А ці ад хлеба, з'едзенага з бруднае рукі, хтосьці памёр?".

Аднак справа асабістай гігіены хвалюе людзей ад моманту, калі яны навучыліся адрозніваць гігіену ад яе адсутнасці.

Чытач можа падумаць (а нават напісаць у „Ніву"): „Адкуль узяўся нейкі Петручук-гігіеніст? Мо адно гаворыць, а другое думае?"

Я сапраўды баюся пісаць, атрымаўшы „порцыю" ад невядомай мне Ангелікі Савіцкай і майго былога сябра Грышы Мароза. Але хачу сказаць: думаю тое, што і раблю. Хаця і займаюся пытаннем гігіены, не магу сказаць, што брыджуся людзьмі, а ўжо з канём, ці каровай буду піць з аднаго вядра. Але брыджуся іхнімі і сваімі адкідамі. А вы не? Вы думаеце, што мы рознімся ў справах гігіены? Вы таксама з агідай успрынялі б, калі б вам хтосьці падаваў руку, высмаркаўшы ў яе на вашых вачах свой нос. А гэта ж здараецца часта. Падыходзіце да чалавека, каб з ім прывітацца, а той, быццам паводле нейкага рытуалу, смаркаецца ў правую руку, выцірае яе аб нагавіцы і падае вам. Падасце яму сваю? Пэўна, што падасце. Але адначасова падумаеце, дзе б гэта яе хутчэй абмыць.

Многіх чытачоў здзівіць і тое, што я зараз скажу. А я скажу, што парадачны чалавек не павінен абмяжоўвацца туалетнай паперай, павінен і падмывацца. І толькі пасля ўсяго гэтага вымыць рукі.

Няхай смяецца хто хоча, а я люблю чысціню і ўсё вам прабачу, толькі не брудныя рукі. Бо я вам ніколі не нарэжу хлеба бруднымі рукамі.

Быў я на вяселлі. Людзі прыехалі з вянца і разбегліся, дзе хто мог, за сваёй патрэбай. А яназіраў: ці хаця б адна жанчына або мужчына падыдзе потым да крана. Ніхто гэтага не зрабіў, усе хутчэй палезлі за сталы.

Раніцай я нікога не правяраў, мыўся ён ці не. Але гэта і так вылезла. Іван убачыў, што я іду з ручнікамі ў ванную, і пажартаваў: „Ого, Васька мусыт за шчось трымаўся, бо пушоў мытыся".

— А ў цябе чыстыя рукі? — пытаю. Іван падняў далоні, пакруціў імі і адказаў:

— А што, я гамно мысыў?

І ўрэшце пытанне: Што гэта такое тая гігіена? Якія павінны быць нашы адносіны да яе? Мусіць, яна надта ж важная, калі аб ёй кніжкі пішуць.

**Васіль Петручук**

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Бацька не навучыў, то людзі навучаць.

Гадка есці і шкада кінуць.

Дзеўка без касы не мае красы.

(Працяг са стар. 2)

## ДЭБЮТ ДУДАРАВА Ў КІНО

руся перажывае другую любоў да любімага з маладосці Мішкі Кіселя — грае яго Станіслаў Саральскі).

У канцы прыбывае ў Белыя Росы Сашка. Бацьку прывітае ўжо ў новай, гарадской кватэры. Хвядос неадкладна бярэцца ажаніць сына. Наступаюць забаўныя перыпетыі, але ўсё заканчваецца вяселлем.

„Белыя Росы" — фільм перш за ўсё аб людзях, аб іх характарах, адносінах. Праблема пераходу з вёскі ў горад у фільме паказана без празмернага перавелічэння. Жыхары, цэлае жыццё якіх было звязана з вёскай, шкадуюць сваіх хат, гародчыкаў, але адначасова разумеюць неабходнасць змен. Не бунтуюцца, спакойна прымаюць новае.

Фільм Дабралюбава вясёлы і сумны, па-юнацку свежы і мудры. Смех пераплятаецца ў ім з слязьмі, а драматычныя становішчы нечакана пераходзяць у вадэвільныя. Многа тут людскай цеплыні і шчырасці. Няма месца на танныя эфекты і фальшывы пафас. Аўтарам карціны ўдалося дасягнуць сваёй мэты: забаўляючы гледача, схіліць яго да больш сур'ёзнага разважання над далейшым лёсам герояў.

Фільм каляровы, з надпісамі, у версіях панарамнай і вузкаплёначнай.

**Пётр Байко**

(Працяг са стар. 4)




ца сход кантрактацыйны. Не вытрымоўваю, уваходжу ў залу, дзе адбываецца сход. Сяляне сядзяць, хто як можа, і, лускаючы семечкі, слухаюць, а мо і не слухаюць чалавека, які сядзіць за дзіцячаю партай. Я чакаю, каб хутчэй скончыў, бо ў мяне ўсяго дзве гадзіны на арганізаванне сходу і гуртка — самаход прыедзе.

Скончыўся мой сход, людзі пайшлі па дамах — глыбокі вечар. Актывіст запрашае мяне на чай. Заходжу да яго. Сядзім, глядзім тэлевізар. Але бачу, жонка гаспадара лягла спаць, і дзеці лягаюць. Думаю: „Я ж тут завада, а мо і сварыцца будуць з-за мяне, што ноччу зайшоў. Аб чаі ніхто не напамінае". Развітаўся я з гаспадаром і пайшоў пешшу да мястэчка, дзе была наша база.

А пасля? Пасля цэлая грамада заехала ў Крывяцічы, да бацькі Янкі Добаша, дзе гасцявалі і спалі. На другі дзень зноў па вёсках, зноў холад і думка, як дабрацца да Беластока. Два дні дрыжэлі ў неатопленых „святліцах", а цяпер стаім на аўтобусным прыпынку і чакаем невядома чаго, бо аўтобусы з Орлі ўжо ад'ехалі. Ну скажыце, ці можна ў такіх умовах эфектыўна дзейнічаць?

Яшчэ адно. Сяляне чамусьці не любяць сходаў, але гэта ўжо іншая справа і іншая тэма. Не ведаю, ці можна нас абвінавачваць за недахоп актыўнасці? Мо і можна, але не ўсіх.

**Васіль Петручук**

# Ой калядкі, каляднічкі!



Спеўны і звёздны Райск пануе на сцэне.

27 студзеня г.г. сачыў я за III ваяводскім аглядам калядных калектываў у Ясяноўцы. Ужо нават па колькасці ўдзельнікаў (23 калектывы і ў кожным ад чатырох да трыццаці каляднікаў) можна меркаваць, што гэты красачны народны абрад яшчэ жыве ў розных пакаленнях і асяроддзях Беласточчыны. І толькі пазайздросціць адвагі і ўпэўненасці хлапчукам і дзяўчынкам, часам ва ўзросце пачатковых класаў падставовай школы іхніх беспамылковых дэкламацый даўжэзных маналогаў з „Ірадаў" ці звонкага выканання разнастайных калядак. Мабыць гледзячы на іх, забылі пра свае гады і немачы шасцідзесяці- або і сямідзесяцігадовыя бабулькі і дзядкі ў бадзёрых жартаўлівых песнях, жвавых сцэнках. А кожны калектыў паклапаціўся пра адпаведныя абраду строі, арыгінальныя звёзды, жывыя абразкі з біблейскага Віфлеема і г.д.

Агляд працягваўся больш за шэсць гадзін і паглядзець ды паслухаць было што. Хлапчукі са Стаднікаў гм. Гродзіск надзвычай бойка калядавалі з казой і праспявалі старажытную беларускую песню пра казу, праўда, у перакладзе на мясцовую польска-беларускую гаворку. Гурт дзяўчатак з Гуранаў гм. Крынкі інсцэнізаваў наведанне калядніцамі са звяздою, песнямі і зычаннямі сялянскай хаты, а ўсе яны былі апрануты ў арыгінальныя беларускія кажушкі, саяны, фартушкі, хусткі — жывы этнаграфічны абразок з мінулага стагоддзя! Дарослыя з Вярхуцы каля Драгічына над Бугам, апрача песень, разыгралі старадаўнюю інтэрмедыю пра тое, як у селяніна купляў яўрэй каня. Вялікі маладзёжны калектыў з горада Беластока (з Сонечнага Стоку) выступіў з „Батлейкай" („Ясэлкамі"), у якой былі песні і танцы, інструментальная музыка і тэатральныя абразкі, а ўсё ў прапавіта падрыхтаваных самімі ўдзельнікамі касцюмах. І так у выступленні кожнага калектыву было нешта своеасаблівае, адметнае, непаўторнае.

З цікавымі старабеларускімі каляднымі песнямі выступіў калектыў з Рагаўкі гм. Сямяцічы (некаторыя з гэтых твораў у запісе ад рагаўскіх спявачак публікаваліся ў „Ніве"). Шэраг з іх паходзіць з XVIII, а нават XVI стагоддзяў. Большасць — гэта арыгінальныя народныя песні на паўночна-палескай гаворцы з моўнымі асаблівасцямі з Пабужжа, але ёсць сярод іх таксама творы, складзеныя безыменнымі аўтарамі. Рагаўчанкі спявалі іх, як і трэба, паважна, урачыста.

Калектыў з Вялікіх Тыневіч гм. Нарва і на гэтым аглядзе паказаў сваю вялікую актыўнасць і добры выканаўчы ўзровень. Прадумана падабраныя песні, старанная падрыхтоўка, бездакорны спеў. Без лішніх рухаў і воклічаў — усё з тым, уласцівым усходнеславянскай выканаўчай традыцыі, „душэўным адданнем песні", як пісаў пра беларусаў-падляшукоў польскі фалькларыст М. Федароўскі.

Спявачкі з Райска гм. Бельск-Падляшскі пакінулі добрае ўражанне не толькі сваімі звонкімі



Беластоцкія каляднікі з Сонечнага Стоку.

**ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ**

# ТРАГЕДЫЯ ДЗЯЦЕЙ

Смерцяносны каток, запушчаны гітлераўцамі надосвітку 22 чэрвеня 1941 года, душыў на дарогах вайны ўсё без разбору, што толькі траплялася на яго шляху. Найгорш цярпелі дзеці, асабліва тады, калі нечакана аставаліся сіратамі або гублялі сваіх бацькоў. Нездарма жыхары Грыбаўцаў і іншых прыгранічных вёсак так добра запамяталі дзіцячыя крыкі, якімі клікалі яны сваіх бацькоў. Часта клікалі надарэмна.

З Цеханоўца ўцякала на ўсход **Аляксандра Перавозкіна** з маленькімі дзецьмі. **Валерыку** не было тады яшчэ і паўтара годзіка, а **Колю** мінаў шосты год жыцця. Цехановец знаходзіўся ў прыгранічнай зоне. Часу на зборы яны не мелі. Суседка **Ксеня Голубева**, таксама „**саветка**", па прафесіі ветэрынар, мела службовую брычку. Адступіла крыху месца на гэтай павозцы і дзецям Аляксандры Радзівонаўны Перавозкінай. Яна, Ксеня Голубева, таксама мела маленькую дачушку, равесніцу Валерыка. Разам праехалі кіламетраў 5-7 за Цехановец. Пачалася бамбёжка. Кожны ратаваўся як мог. Выбухі бомбаў, крык людзей, плач дзяцей, трывожнае іржанне коней — усё гэта перамешвалася ў пякельны лямант. Здавалася, што наступіў канец гэтаму грэшнаму свету.

Калі Шурка Перавозкіна апамяталася і прыйшла крыху ў сябе, яна з жахам сцвердзіла, што недзе прапалі яе дзеці.

— Коля! Колечка! — зараўла жанчына дзікім голасам, спадзеючыся, што яе старшы сын пачуе трывожны матчын кліч і адгукнецца. Голас яе, аднак, расплыўся сярод ляскатні падвод і кулямётнай страляніны ды ляманту параненых, якія прасілі дапамогі...

Праз многа гадоў высветлілася, што дзеці Перавозкінай паехалі далей на брычцы Ксені Голубевай. 23 чэрвеня яна ўжо апынулася за Беластокам, а разам з ёю трое дзяцей: свая дзяўчынка і два хлопчыкі Перавозкінай. Шаша Беласток-Ваўкавыск амаль на кожным кіламетры была загружана жывымі і мёртвымі. Яе безупынку бамбілі і абстрэльвалі. Ксеня кінулася ў аб'езд.

*„Не памятаю, на якім кіламетры я павярнула направа на лясную дарогу, — пісала мне калісьці Ксеня Пятроўна Голубева. — Гэтая дарога завяла мяне ў кусты. Там я распрэгла каня, прывязала яго за брычку, пасадзіла пад кусцік Валерыка, дала яму паесці і папрасіла Колю, каб астаўся з брацікам..."*

Коля, вядома, не захацеў аставацца адзін у лесе. З плачам і крыкам пабег за цёцяй Ксеняй. Толькі Валерык, неспаўна паўтарагадовы хлопчык-сіротка, не разумеў і не ведаў, што з ім і што вакол яго дзеецца. Было цёпла, стаяў спякотны чэрвеньскі дзень, жывоцік быў запоўнены стравай ды і спаць захацелася, бо ўжо другі дзень трэсся ён, бедненькі, па дарогах сярод грукату і выбухаў ды ляскатні ўсялякага віду дарожнага транспарту.

— Я была ўпэўнена, — апраўдваецца Ксеня Пятроўна, — што нейкі мясцовы селянін,

галасамі і цікавымі песнямі, але і пышнай падвойнай звяздой — самай прыгожай на аглядзе. Не ўступаў ёй і ўзровень выканання песень. З яго найлепш была відаць салідная праца нястомнага, ахвярнага дзеяча беларускага песеннага аматарскага руху на Бельшчыне Пятра Нявінскага.

Узнагародаў і адзначэнняў было многа — ніводзін з калектываў не пакінуў Ясяноўку з пустымі рукамі. І гэта добра, бо ўсім належаліся большыя ці меншыя грашовыя, рэчавыя ці хоць бы сімвалічныя ўзнагароды за асабісты ўклад працы, помыслу і перажыванняў, каб гэты маляўнічы абрад працягваў жыць і ўпрыгожваў наша жыццё. А ўся імпрэза прыемна здобіць Ясяноўку — колішняе мястэчка, а сённяшнюю ўтульную і працавітую вёску — цэнтр прадуктыўнай і заможнай гміны. Здаецца, што якраз тут, у гушчы жывой яшчэ народнай творчасці, на рубяжы сутыкнення яе ўсходнеславянскай і заходнеславянскай плыняў, якраз найбольш адпаведнае месца такому агляду. Ён падымае на сцэну самабытнае і надта ж багатае напевамі, дзеямі, колерамі народнае мастацтва польскага і беларускага народаў. І трэба зрабіць на ім яшчэ адзін крок: заахвоціць аматарскія калектывы ставіць таксама творы Шылера і Купалы, заснаваныя на калядных абрадах нашых народаў.

Спраўная арганізацыя агляду гэта заслуга таксама працаўнікоў Ваяводскага дома культуры на чале з яго дырэктарам К. Дэркоўскім, які адкрыў агляд, арганізатара імпрэзы Апалоніі Ажаховіч і Дароты Мілеўскай — вядучай агляд, а таксама актыву ясяноўскага Гміннага асяродка культуры. Ва ўсім відаць была дбайнасць, каб агляд прайшоў удала, выявіў дасягненні ўдзельнікаў і пакінуў самае лепшае ўражанне на калядніках і гледачах.

Шчыра зычу нашым чытачам і сабе ўдзелу ў гэтай імпрэзе ў будучым годзе.

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара



„Ірады" ў выкананні моладзі з вёскі Камянкі гм. Гродзіск.



Паглядзець калядгікаў прыйшлі ў ясяноўскі ГОК і старыя і малыя.

калі палакоміцца на каня, брычку і ўсё тое дабро, што асталося на павозцы, дык не пакіне і маленькага дзіцяці... Я ж апынулася ў бязвыхадным становішчы. У мяне на руках было сваё дзіцё, дзяўчынка, таксама паўтарагадовая. За плечы закінула я найбольш неабходныя рэчы... Дзе было падзець, як узяць мне гэтага Валерыка?

Цяпер можна прыдумаць сотні шчаслівых развязак гэтай трагічнай гісторыі. Магла б Ксеня Голубева, для прыкладу, даехаць на гэтай брычцы да нейкай вёскі і папрасіць дапамогі ў першага сустрэчнага селяніна... Толькі хто ведае, як кожны з нас паступіў бы, апынуўшыся ў гэтакай бядзе?

Па-суседску знаходзілася вёска **Сабалева**, а ў Сабалеве жыў **Сцяпан Сідаровіч** — звычайны беларускі селянін, старэйшага ўзросту. Быў першым чалавекам, якога сустрэла Ксеня Голубева пасля разлукі з Валерыкам, канём і брычкай. Дзядзька Сцяпан напаіў і накарміў змучаную і ўсхваляваную жанчыну ды запрасіў іх разгасціцца пад яго дахам, адпачыць, супакоіцца.

Ксеня Голубева расказала яму, хто яна і што прывяло яе ў вёску Сабалева. Дзядзька Сцяпан адразу паімчаўся на ўказанае месца. Вярнуўся ён неўзабаве дамоў, але без Валерыка! Прыгнаў толькі каня з брычкай і прывёз крыху рэчаў, якія яшчэ асталіся на гэтай брычцы.

— Ніякага дзіцяці я каля брычкі не знайшоў! — заявіў ён. — Усе кусцікі абшукаў...

...Цераз дзень або цераз два сяляне з вёскі Сабалева знайшлі Валерыка ў канюшыне на полі **Антона Пятроўскага.** Відаць, адпачыўшы пад кусцікам, ён прачнуўся і пачаў клікаць сваю маму. А мама не адзывалася. Яна ў гэты час пехатою ішла з вёскі ў вёску і ўсіх сустрэчных людзей распытвала пра жанчыну з брычкай і пра траіх дзяцей. Дваіх маленькіх і аднаго шасці-сямігадовага хлопчыка... На жаль, дарогі іх не зышліся...

Валерык проста пабег, куды вочкі яго панеслі. Натрапіў на густую канюшыну. Яна для маленькага дзіцяці аказалася непраходнай пушчай, як густы лес. Не змог яго пераадолець. А неўзабаве не хапіла і сіл, каб плакаць...

Пасля жонка Антона Пятроўскага расказвала мне, што яшчэ некалькі дзён гэтае дзіця брудзіла пялёнкі нечым зялёным.

— Ад голаду хіба канюшыну яно ела...

— Спакойнае было дзіця, — папаўняе Антон Пятроўскі. — Гэтакі беленькі, кучаравы хлопчык. Што дасі, тое і з'есць, ды спіць сабе спакойна.

Так і астаўся Валерык у Пятроўскіх. Мікалаем заапекавалася сям'я Сідаровічаў. Пасля яшчэ ў іх лёсе здарылася шмат чаго нечаканага, але аб гэтым я калісьці (20 год таму назад) расказваў ужо на старонках „Нівы", дык сёння толькі прыгадаю, што пасля 25-гадовай разлукі абодва сыны сустрэліся з маці. Цяпер адзін з іх, малодшы, Валерка, жыве ў Беластоку, а другі — старэйшы, Мікалай, абсталяваўся ў Мінску.

Калісьці ў Тапалянах дырэктар мясцовай школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі расказала мне пра падобную трагедыю адной рускай сям'і. У пасёлку **Супрасль** жыў **афіцэр** Чырвонай Арміі. Добры быў ча-

**(Працяг на стар. 8)**

# Бібліяграфічны куточак

У дн. 4-7 сакавіка г.г. у Кракаве будзе працягвацца аўкцыён, на якім будуць прадавацца з торгаў кніжкі (спадзяемся, што пададзеныя пазіцыі зацікавяць нашых чытачоў):

Poz. 3 — Abraham W. — Powstanie organizacyi Kościoła łacińskiego na Rusi. T. 1. Lwów 1904. Cena wywoławcza 1,2 tys. zł.

Poz. 4 — Abramowicz W. — Strony nowogródzkie. Szkice krajoznawcze. Lida 1938. Cena wywoł. 500 zł.

Poz. 29 — Alma Mater Vilnensis. Z. 2. Londyn 1951 (k III rozdz.: Litwini, Białorusini i Polacy w dziejach W. Ks. Litewskiego). Cena wywoł. 1,5 tys. zł.

Poz. 195 — Chotkowski W. — Dzieje zniweczenia Św. Unii na Białorusi i Litwie w świetle Pamiętników Siemaszki. Kraków 1898. Cena wywoł. 1,5 tys. zł.

Poz. 244 — Dangel S. — Rok 1831 w Mińszczyźnie. W-wa 1925. Cena wywoł. 900 zł.

Poz. 260 — Dębiński K. — Raskoł i sekty prawosławnej cerkwi rosyjskiej. W-wa 1910. Cena wywoł. 400 zł.

Poz. 276 — Dreszer Z. — Sprawa mniejszości narodowych w Polsce a program państwowej demokracji. W-wa 1926. Cena wywoł. 300 zł.

Poz. 503 — Jankowski Cz. — Powiat oszmiański. Materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1. Petersburg 1896. Cena wywoł. 5 tys. zł.

Poz. 504 — j.w. Cz. 4. Petersburg 1900. Cena wywoł. 2 tys. zł.

Poz. 547 — Jodkowski J. — Grodno. (Monografja). Wilno 1923. Cena wywoł. 400 zł.

Poz. 771 — Likowski E. — Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi XVIII i XIX w. ... Cz. 1—2. W-wa 1906. Cena wywoł. 3 tys. zł.

Poz. 772 — Likowski E. — Unia Brzeska (r. 1596). Poznań 1896. Cena wywoł. 1 tys. zł.

Poz. 1029 — Ossendowski F. A. — Polesie. Poznań b.r. Cena wywoł. 5 tys. zł.

Poz. 1278 — Schmitt J. H. — Zgodność i różność między wschodnim i zachodnim Kościołem czyli pomysł ku połączeniu odstępney cerkwi greckiey z Kościołem rzymsko-katolickim. W-wa 1831. Cena wywoł. 3 tys. zł.

Poz. 1379 — Stryjkowski M. — Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi... T. 1—2. W-wa 1846. Cena wywoł. 8 tys. zł.

Poz. 1482 — Tyszkiewicz E. — Badania archeologiczne nad zabytkami przedmiotów sztuki rzemiosł i t.d. w dawnej Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno 1850. Cena wywoł. 500 zł.

Poz. 1490 — Unia Litwy z Polską (1385—1569). W-wa b.r. Cena wywoł. 800 zł.

Poz. 1516 — Walicki M. — Cerkiew św. Borysa i Gleba na Kołoży pod Grodnem. W-wa 1929. Cena wywoł. 800 zł.

Poz. 1588 — Wlast — Karotkaja historyja Biełarusi. Wilnja. 1910. Cena wywoł. 500 zł.

Poz. 1657 — (Załęski S.). — Historya zniesienia Jezuitów w Polsce i ich zachowanie na Białej Rusi. Lwów 1875. Cena wywoł. 2 tys. zł.

Заказы на вышэй названыя кніжкі можна дасылаць на адрас:

Antykwariat Naukowy, ul. Sławkowska 10, 31-014 Kraków.

У іх трэба падаць: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак кніжкі і найвялікшую цану, якую заказчык можа заплаціць за кніжку. Той, хто хацеў бы асабіста прыняць удзел у аўкцыёне, павінен ставіцца ў:

Krakowskim Dumu Kultury, „Pałac Pod Baranami", Rynek Główny 27, I p.

Пачатак аўкцыёна 5.III. у 9 гадз.

**Пётр Байко**




*Дачцэ сваёй прысвячаю*

О, малая Улляна,
Пад свята хацела б
Даць табе Мікалая,
Тры зоркі, малога Анёла,
Каб была заўсёды вясёла.
Прынясу з лесу ёлку,
Прыбяру ватай, яблыкам,
Грушай, зайчыкам, ланцужкам,
Каб Ісус Хрыстос
Спяваў над тваім вушкам.
О! Глядзі на неба...
Зорка паўстала...
Усіх дзяцей на свеце
Радасна прывітала.

**Ірэна Юрчук**

### ЛЮБОЎ

Гэта ёсць любоў,
Калі найбольш баліць
Ранай на фронце,
Калі гэтае каханне —
Дарогі шуканне
Ў нашым балагане.

**Дарота Парфенюк**

### ГА..., ГАДЗІНЫ

Настаў шумны час
Прыйшлі няспынна
Доўгія гадзіны
Тут сэрца б'е
Хутка
хутка
І... перастае
Затым зноў гадзіны
Сэрца хутчэй ды хутчэй
Б'е
У вокнах ясна
Неба ў зорках
Хвіліны
хвіліны
І зноў доўгія гадзіны.

**Люся Анхім**

### У ШЫРОКУЮ ДАЛЬ

У шырокую даль
Адыходзяць ўспаміны,
Забытыя дні, забытыя хвіліны.
І застануцца тыя,
Што незвычайныя былі,
Што радасць прынеслі,
Калісьці нас цешылі,
І тыя, што смуткам
Калісьці віталі,
Што незвычайныя былі —
У памяці засталісь!

**Рышард Бутайла**

ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

# ПАКРЫЎДЖАНАЕ ДРЭЎЦА



Многа год я цікаўлюся раслінным светам Беласточчыны і прыходжу да вываду, што некаторыя расліны павінны адчуваць сябе пакрыўджанымі. Пра адны людзі склалі красачныя міфы, легенды, прыдумалі ім розныя дзівосныя прымяненні — то для кідання чараў, то для здымання чараў, а пра іншыя зусім не ўспамінаюць. Ці гэта справядліва? Якраз такое пакрыўджанае дрэўца — крушына ломкая (лацінская назва — Frangula alnus, польская — kruszyna biała, руская — крушина ломкая или ольховидная).

Шырэй вядомы, хоць цяпер менш скарыстоўваюцца, уласцівасці крушыны ў гаспадарцы. Кара крушыны мае лячэбныя ўласцівасці, прыдатная яна ў гарбаванні скураў і ў фарбаванні тканін (на колеры жоўты і карычневы). Парасткі прыгодны для нарыхтоўкі плеценых вырабаў. З драўніны калісьці (а мо і цяпер?) выпальвалі рысавальны вугаль, такі якраз, якім карыстаўся праф. Віктар Зін у тэлевізійных перадачах „Пёркам і вугальком". Вугаль з крушыны ўжывалі таксама для вырабу пораху і феерверкаў. Апрача гэтага з крушынавай драўніны выраблялі шавецкія капылы і гвазды. Да фарбавання тканінаў скарыстоўвалі таксама ягады (колеры зялёны і фіялетавы).

Крушына — дэкаратыўнае дрэва, а яе кветкі меданосныя.

У народнай і навуковай медыцыне прымяняюцца кара і плады. Крушынная кара ўздзейнічае жаўцягонна і слабіцельна (прачышчальна), яна ўзбуджае перыстальтычны (рабачковы) рух. Прымяюць адвар пры працяглых запорах, захворваннях печані і жоўцевага пузыра. Адпаведныя лякарствы можна нарыхтаваць хатнім спосабам. Прафесар А. Ажароўскі падае такі рэцэпт: 1-5 грам сцёртай на парашок крушыннай кары, якая праляжала сама меней адзін год, запарыць у 200 грамах вады. Прымаць адзін раз увечары як слабіцельны сродак у колькасці 1/3 — 1/2 шклянкі. Лячэбнікі падаюць таксама іншыя рэцэпты, напрыклад, 20 грамаў кары (не змолатай на парашок) запарыць шклянкай кіпетню і піць па адной сталовай лыжцы раніцай і вечарам перад ядой.

На лякарства крушынную кару збіраюць у красавіку-маі да з'яўлення лісця. Толькі тады яе лёгка можна аддзяліць ад дрэва. Калі распусцяцца лісці, кару можна толькі састругаць, а гэта не дае ўжо чыстага лячэбнага прэпарата.

Чытачы, якія хочуць назбіраць крушынавай кары, могуць сустрэцца з некаторымі цяжкасцямі ў распазнанні крушыны сярод іншых дрэўцаў. Трэба памятаць, што маладыя парасткі яе апушаныя, без калючак, кара цёмна-шэрая з белымі, як коскі, прадыхавінкамі, якія сабраны ў шэрыя папярочныя плямкі. Калі кару на крушыне калупнуць пазногцем, то драпіна будзе пурпурна-чырвонага колеру. Ніводнае іншае дрэўца з тых, што растуць над воднымі стокамі (шэрая альха, чаромха, рабіна, каліна) такога колеру драпіны не маюць, толькі крушына і жасцёр слабіцельны (лацінская назва — Rhamnus cathartica L., польская — szakłak pospolity, руская — жестёр слабительный), але на яго галінках знаходзяцца калючкі.

Кару з крушыны збіраюць і сушаць таксама, як кару з дуба. (Глядзі папярэдні нумар „Нівы"). Аднак, неабходна памятаць, што для лячэння высушаная кара прыгодная толькі, калі адлежыцца яна год часу. Калі яна свежая, то выклікае млоснасць і рвоту. Таму на торбачцы, у якой захоўваем крушынную кару, абавязкова трэба напісаць год яе збору.

Плады крушыны круглыя, велічынёй з гарошыну, атрутныя, пачаткова зялёныя, потым чырвоныя, а спелыя — амаль чорныя. Унутры іх знаходзяцца 2-3 зярняткі. На тым самым кусце выступаюць плады рознай спеласці. Наогул збіраюць іх у верасні. У народнай медыцыне настойку на пладах крушыны прымяняюць пры гастрытах (нежытах), язве (вжодах) страўніка, дызентэрыі (чырвонцы) і гемароі.

Адвар пладоў прымяняюць як лёгка слабіцельны сродак. Нарыхтоўваюць адвар з адной сталовай лыжкі пладоў крушыны і дзвюх шклянак вады, прымаюць два-тры разы ў дзень па адной-дзве лыжкі.

**Б. Паскробка**

(Працяг са стар. 7)

# ТРАГЕДЫЯ ДЗЯЦЕЙ

лавек. Людзі шанавалі яго. Разам з ім знаходзілася яго сям'я: жонка і двое дзяцей — **хлопчык і дзяўчынка.** Хлопчыку было каля года, можа крыху больш, можа менш. Звалі яго **Боркам,** значыць, Барысам. Дзяўчынка — трохгадовая. Яе імя ніхто не запамятаў.

Калі стала ясна, што армія апынулася ў варожым катле, што трэба чым хутчэй пакідаць гэтыя старонкі, каб ратаваць сваё жыццё, гэты афіцэр раздабыў нейкі выпадковы транспарт і заскочыў за жонкай і дзецьмі.

**На жаль, было ўжо запозна. У пасёлку знаходзіліся гітлераўскія часці.** Хтосьці з мясцовых ляпнуў даўгаватым языком, скарыстаўшы момант, каб спагнаць сваю нянавісць да савецкай улады. Вермахтаўцы накіраваліся на кватэру чырвонаармейскага афіцэра і вывалаклі яго разам з жонкаю на панадворак і на вачах дзяцей...

— Расказвалі людзі, — успамінае пані дырэктар з Тапалян, — што пад вінтоўкамі нямецкіх салдат гэтыя дзеці кідаліся да ног сваіх бацькоў. Асабліва гэты маленькі, Борачка, верашчаў не сваім галаском: *„МАМАЧКА! МАМАЧКА!"*.

Салдаты асталіся глухімі на плач і крык дзяцей. Застрэлілі бацьку і маці.

— Расправу над гэтай сям'ёй, — расказвае пані дырэктар тапалянскай школы, — бачыла мая цётка, родная сястра майго таты, **Яўгенія Курыловіч.** Яна жыла па-суседску з гэтым афіцэрам. Вядома, нічога зрабіць у абарону гэтых людзей яна не магла. Толькі паплакала над лёсам абяздоленых сіротак. Людзі накіравалі іх у нейкі сірацінец, які знаходзіўся на ўскраіне Супраслі.

Пасля так склалася, што цётка Яўгенія Курыловіч і сама трапіла ў гэты сірацінец. Была там няняй ці нейкай іншай працаўніцай. Апекавалася рускімі дзецьмі і кожны дзень бачыла Борку ды яго сястрычку. Дзяўчынка таксама яе ведала і, як у роднай мамы, шукала ў яе цяпла і пацехі.

— Цётка выкрала гэтых дзяцей, — кажа пані дырэктар. — Прывязла да сябе дадому. Хтосьці паведаміў аб гэтым нямецкім уладам, але хтосьці іншы папярэдзіў і цётку, што пагражае ёй бяда. Яна разам з гэтымі дзецьмі ўцякла ў вёску Тапаляны і там даўжэйшы час хавалася ў сваіх сваякоў. Калі ўпэўнілася, што аб яе злачынстве немцы ўжо забыліся, яна зноў вярнулася ў Супрасль. Ёй самой было вельмі цяжка, а гадаваць двое маленькіх дзяцей — яшчэ цяжэй. Яўгеніі Курыловіч ахвотна дапамагалі суседзі. Адна з суседак узяла да сябе старэйшае дзіця, дзяўчынку. У цёткі Яўгеніі астаўся Борка. Шчасліва дачакалі яны вызвалення. Борка быў ужо 5-6-гадовым хлапчуком і шмат чаго разумеў з акружаючага свету. А найважнейшае — вельмі любіў сваю маму, бо аб нейкай іншай, гэтай кроўнай маме, нічога ён не ведаў і не хацеў ведаць.

А тут нечаканая бяда, ды яшчэ з таго боку, з якога нічога ліхога яны не спадзяваліся. Улады аб'явілі загад, што ўсе сіраты савецкіх грамадзян, астаўшыесе на тэрыторыі Польшчы, будуць абавязкова эвакуіраваны на радзіму. Борка не хацеў расставацца з мамай, дык мама, Яўгенія Курыловіч рашыла пакінуць Супрасль, і каб не расставацца з сынам, паехала ў Савецкі Саюз.

**— Пазней у маёй цёткі, — кажа пані дырэктар, — нарадзілася чацвёра сваіх дзяцей. Але Борка так і астаўся ў гэтай сям'і. Цяпер ён жыве ў Слоніме. Стаў афіцэрам, як яго бацька...**

У гэтых жа Тапалянах расказвалі мне яшчэ адну трагічную гісторыю аднаго рускага дзіцяці, але аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Герт Прокап

## СТРЭЛЬБА, ЯКАЯ НЕ ХАЦЕЛА СТРАЛЯЦЬ

**Казка**

**Пачатак у папярэднім вумары**

Калі зброевы майстар пераканаўся, што сам адрамантаваць стрэльбу не можа, ён перадаў яе старшаму майстру, а той — галоўнаму майстру дывізіі, і ўсе аж шалелі ад злосці, бо стрэльба, якую нельга прымусіць страляць, можа зняславіць любога майстра. А што робяць з тымі, з чым не могуць справіцца? Стараюцца сплавіць куды-небудзь, каб больш не мучыцца. Вось чаму наша стрэльба зноў апынулася на караблі і паплыла па акіяне, толькі на гэты раз ужо ў Амерыку, якая ў тыя часы была яшчэ англійскай калоніяй. Ёй кіраваў губернатар — намеснік англійскага караля, і ўся краіна была перапоўнена ўзброенымі да зубоў англійскімі салдатамі.

Стрэльба апынулася ў форце Дзіксан — драўлянай крэпасці. Будынкі з бярвенняў былі абгароджаны наўкол дашчанай сцяной, на якой і ўдзень, і ўночы дзяжурыла варта.

Зброевы майстар форта Дзіксан доўга галавы не ламаў, калі стрэльба і тут адмовілася служыць. Не знайшоўшы прычыны, чаму яна не страляе, ён абыякава адставіў яе ў далёкі кут і, калі аднойчы правалілася ў балота павозка са зброяй, спісаў стрэльбу разам з іншымі стратамі. Сам жа прыцемкамі ўпотай вынес яе са склада, занёс у лес і прыставіў да дрэва.

Там яе знайшоў фермер Джанатан Бакль, які прыходзіў у форт за пакупкамі. Ён вельмі ўзрадаваўся знаходцы. „Паўгода ўжо збіраю грошы, ды ўсё не магу купіць стрэльбы, — падумаў ён, а яна бач: стаіць сабе тут“.

Ён пачакаў трохі, пасля гукнуў на ўвесь лес:

— Го-го! О-го-го!

Але ніхто не адгукнуўся і не паказаўся. І тады фермер сказаў, звяртаючыся да стрэльбы:

— Відаць, у цябе няма гаспадара. Дык што ж — пакінуць цябе тут іржавець?

І фермер узяў стрэльбу, прынёс дадому і паказаў жонцы. А калі яго маленькі сын, якога таксама звалі Джанатан, пацягнуўся да стрэльбы рукою, бацька забараніў яму дакранацца да яе, бо, маўляў, гэта вельмі-вельмі небяспечная зброя.

Назаўтра Джанатан Бакль зноў пайшоў у лес і ўзяў з сабою стрэльбу. У хуткім часе ён натрапіў на след мядзведзя і неўзабаве ўбачыў на паляне самога звера. Фермер ляцнуў затворам, ускінуў стрэльбу і гучна закрычаў, каб мядзведзь павярнуўся да яго передам і можна было пацэліць у самое сэрца.

Мядзведзь крутнуўся да фермера, прысеў на заднія лапы і кінуўся на Джанатана. У той жа момант фермер націснуў на кручок... але пачуўся толькі слабы шчаўчок. Джанатан паспеў адхіснуцца ўбок, інакш звер абхапіў бы яго абедзвюма лапамі. Чалавек кінуўся наўцёкі, але звер бег шпарчэй за яго. І тады ў Джанатана засталася толькі адна надзея — на нож. Ён выхапіў яго з ножнаў і ўсадзіў мядзведзю ў карак...

Перш чым злупіць з мядзведзя шкуру, фермер пачаў аглядаць стрэльбу, але так і не змог зразумець, чаму яна не стрэліла. Дома ён таксама не знайшоў прычыны, хоць разабраў яе на часткі і добра пачысціў.

Тады ён павесіў стрэльбу на сцяну і сказаў жонцы:

— Цяпер я ведаю, чаму яе кінулі ў лесе: яна няспраўная.

А нож пагардліва прашыпеў у бок стрэльбы:

— Здрадніца!

Калі надышла ноч і гаспадары паснулі, стрэльба сказала нажу:

— Хачу растлумачыць табе, чаму я не стрэліла.

— Што тлумачыць! Ты проста няспраўная!

— Не, не таму. А таму, што я не жадаю ваяваць.

— Але ж на тое мы і зброя, каб ваяваць! — усхапіўся нож.

— Я ніколі больш не буду праліваць кроў, — сказала стрэльба. — Гэта жахліва! — і расказала нажу, што давялося ёй перажыць у Індыі.

— Але ж тут была зусім іншая справа! — запярэчыў нож. — Трэба ўсё-ткі разумець розніцу паміж тымі, у каго страляеш. Гэта ж не быў безбаронны чалавек, а раз'юшаны звер.

— Для мяне ўсё адно, — не здавалася стрэльба. — Я дала слова не страляць і страляць ніколі не буду.

— Ат, што гаварыць з дурніцай, — прабурчаў нож і больш не падаваў голасу.

Так і вісела стрэльба на сцяне, і нікому не было да яе справы. Джанатан Бакль ні разу нават не спрабаваў выпусціць з яе хаця б адну кулю.

Аднойчы, калі фермер адлучыўся па справе ў лес, дзверы раптам шырока расчыніліся, і ў хаціну ўваліўся дзікі з выгляду чалавек з доўгім нажом у руцэ.

— Грошы! — зароў ён, убачыўшы гаспадыню. — Грошы і чаго-небудзь паесці, а не — дык зарэжу!

— Паесці я табе дам, — адказала жанчына, — але грошай — у мяне няма. Мы людзі бедныя.

— Так я табе і паверу! — сказаў грабежнік і раптам убачыў маленькага Джанатана. Ён схапіў хлопчыка, прыставіў да яго грудзей нож і закрычаў:

— Давай грошы, старая, або закалю твайго сына!

І тут жанчына сарвала са сцяны стрэльбу і наставіла на бандыта:

— Ідзі прэч, пакуль цэлы, —

(Працяг на стар. 10)



Малы Адаська быў са сваёй бабуляй у школе на ёлцы. Вельмі ж цікава там дзеці спявалі, танцавалі і дэкламавалі вершы.
Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Рыгор Мароз

## КАМУ НАЙЛЕПШ?

Спрачаюцца дзеці між сабою. Каму найлепш жывецца на свеце?

— Вядома. Найгорш жывецца нашай дзіцячай гвардыі. Зранку будзяць. У школу хадзіць трэба. Урокі вучыць. Вечарам спаць гоняць. Крычаць на нас, сварацца. Да працы прымушаюць. Горш, чым бацькам. Што ім? Яны дарослыя. Што хочуць, тое і робяць. Вечарам сядзяць дакуль хочуць. Рана іх ніхто не будзіць! А што працаваць трэба? Дык за тое ім грошы плацяць. Яны жывуць! — уздыхаў Лявонка.

Разумнік Янка тут умяшаўся:

— А скажыце, для каго яны працуюць? Яны ж нас, дармаедаў, гадуюць. Апранаюць як найлепш. Стараюцца, каб нас нечаму навучыць. А найбольшае жаданне мамы і таты — каб у людзі нас вывесці. А каб добра нам жылося, яны вымушаны працаваць.

А Светка кажа:

— Мне здаецца, найлепш жывецца звярам. Вось хоць бы каню. Яго накормяць, аўса падсыплюць. Напояць у час. А што працаваць трэба — на тое ён і конь.

— Некаторыя б'юць каня, — азваўся маленькі Васька. — Яму баліць.

— Не, — сказалі ўсе. — Каню таксама цяжка жыць. Нездарма ж кажуць: „Цяжка працуе, як конь“.

— Дык можа найлепш птушкам, — уключыўся Рыгорка. — Лётаюць сабе высока. Вольныя заўсёды. Куды захочаш, туды і ляці. Адно еш і спявай, калі ахвоту маеш.

А Іванка запярэчыў:

— А гняздо рабіць? А дзетак гадаваць? А як трэба баяцца, калі кот на іх ахвоту мае? І самой асцярожнай трэба быць.

— Тады найлепш быць сабакам, — сказаў Міколка. — Гаспадар яго накорміць. А ён за гэта — знай брашы і гаспадара пільнуй!

— А на ланцуг каго бяруць? Калі гаспадар нядбайны, хто ўзімку дамярзае? Напэўна, сабака!

— Дык каму ж найлепш жывецца? — адгукаецца Барыс. — Не ведаеце? Кату! Цэлы дзень ён у цёплай хаце сядзіць. Яшчэ на печы бакі грэе. Малачка нап'ецца досыта. І не робіць нічога цэлы дзень. А калі ахвоту мае, дык мышак па клуні пагаляе. А калі не, дык мышы па клуні гуляюць, а ён на печы ляжыць. Дык што, не катам найлепш жывецца?

А я вам, дзеткі, вось што скажу. А найлепш запытаю:

— Што было б, каб усе катамі сталі? Хто накарміў бы ўсіх катоў? А чалавек працуе, каб усім было: і дзеткам, і птушкам, і звярам. І дзякуючы яго цяжкай працы дастаецца і лянівым катам.

# СТРЭЛЬБА, ЯКАЯ НЕ ХАЦЕЛА СТРАЛЯЦЬ

(Працяг са стар. 9)

сказала яна, — а то спушчу курок!

Маленькі хлопчык заплакаў. „Вось дык становішча!“ — падумала стрэльба. Убачыўшы збялелы твар маленькага Джанатана, яна раптам успомніла іншы твар, твар індыйскага хлопчыка, які таксама збялеў ад жаху.

— Ты не адважышся, — здзекліва сказаў грабежнік. — Перш чым твая куля трапіць у мяне, я зарэжу твайго пестуна.

— І ён працягнуў руку, каб вырваць у жанчыны стрэльбу. Але яна націснула на кручок. Са ствала вылецела куля і прабіла плячо бандыта. Ён нема закрычаў, выпусціў з рукі нож і ўцёк у лес.

Неўзабаве дадому прыбег спалоханы Джанатан Бакль: ён чуў стрэл. Калі жонка расказала яму, што адбылося, фермер пяшчотна пагладзіў далонню стрэльбу і сказаў:

— Ты не такая бескарысная, як я думаў!

Калі надышла ноч, нож сказаў стрэльбе:

— Ты добра зрабіла. А казала, што не хочаш страляць!

— Так, не хацела, — адказала стрэльба. — І ты ведаеш, чаму. Але як толькі я пачула плач маленькага Джанатана і ўбачыла на яго́ным твары жах, калі бандыт трымаў каля яго грудзей нож, я не магла зрабіць інакш.

— Выходзіць, — сказаў нож, — ты зноў стала надзейнай зброяй.

— Сама не ведаю... — няпэўна адказала стрэльба. — Забіваць так страшна...

— Але ж і зусім ні з кім не змагацца неразумна, — прамовіў нож. — Пакуль на свеце існуюць дзікія звяры і ліхія людзі, трэба абараняцца. А калі ты ведаеш, што змагаешся за справядлівую справу, то робіш гэта з ахвотай, хіба не так?

— Твая праўда, — згадзілася стрэльба...

Калі Джанатан Бакль зноў узяў яе з сабою ў лес, каб упаляваць ваўка, стрэльба не падвяла яго. Бездакорна страляла яна і тады, калі амерыканскія каланісты паўсталі супраць улады англійскага караля, узяліся за зброю, і пачалі выганяць каланіяльныя войскі. Джанатан Бакль зрабіўся адным з праслаўленых барацьбітоў за вызваленне, і яго празвалі Надзейны Джон, таму што стрэльба яго страляла трапна і ні разу не прамахнулася.

## Вясёлы куточак

* * *

— Што вы, доктар, робіце, калі вы захварэеце на грып?

— Тое самае, што і вы: кашляю і чхаю.

* * *

— Мой сабака вельмі разумны, — кажа адзін паляўнічы.

А другі на тое:

— І я так думаю. Кожны раз, калі ты страляеш, твой сабака хаваецца за дрэва.

* * *

Настаўнік:

— Як пішацца „мыш“?

Цішыня.

— Ну, як пішацца „мыш“? Што на канцы?

Вучань:

— Хвост.

* * *

— Ну, як ты адчуваеш сябе ў новых акулярах?

— Вельмі добра. Амаль штодзень сустракаю людзей, якіх даўно не бачыў.

* * *

— Галё! Міліцыя? Учора ў нас злодзей быў, перавярнуў усю хату!

— А чаму вы толькі сёння да нас звоніце?

— Бо я думала, што гэта мой муж чыстую кашулю шукаў!

* * *

Маладая гаспадыня кажа свайму мужу:

— Я выскачу да суседкі на 10 мінут. А ты за паўгадзіны выймі пірог з печы!

* * *

Турыст пытаецца дзеда, што перад домам на лаўцы сядзіць:

— Скажыце, калі ласка, вы тут, у гэтай вёсцы, пражылі ўсё сваё жыццё?

А дзедка на тое:

— Ну, усё — то яшчэ не.

* * *

— Прынясіце, калі ласка, мне мясную катлету! — просіць наведвальнік у афіцыянта. — Толькі вялікую, бо я вельмі нервовы. Кожная дробязь выводзіць мяне з сябе.

* * *

— Я меў ужо пяць гадзін англійскай мовы, — хваліцца Пеця.

— Ну і што, — пытаецца яго сябра, — можаш ужо пагаварыць з англічанамі?

— Не, з англічанамі яшчэ не. Але магу з такімі, што ўжо таксама мелі пяць гадзін англійскай мовы.

* * *

Пры дзвярах пачуўся званок.

— Гэта вы прасілі, каб прыйшлі да вас вокны ушчэльніць?

— Так, калі ласка, заходзьце.

Праз хвіліну пры дзвярах зноў пачуўся званок.

— Гэта вы прасілі, каб прыйшлі да вас вокны ўшчэльніць?

— Так, але тут ужо ваш калега працуе.

— Гэта не калега, гэта я. Бо я з акна выпаў.

* * *

— Колькі гадзін мае дзень? — пытаецца настаўнік.

— Дваццаць пяць! — упэўнена адказвае вучань.

— Няўжо? — дзівіцца настаўнік.

— Вы ж учора самі казалі, што ад учора дня прыбыло на гадзіну.

* * *

Нідзе на ўсім свеце зімою не ходзіць столькі людзей з адной схаванай рукой, як у Шатландыі (Шкоцыі). Гэта ўсе тыя, што згубілі адну рукавіцу...

* * *

Перад адлётам самалёта пасажыры пытаюцца ў першага пілота:

— А вы ўсіх нас шчасліва на зямлю вернеце?

— У гэтым можаце быць упэўнены. Яшчэ не здарылася, каб хто-небудзь застаўся ў паветры.

* * *

Ганка ківае галавою і кажа да мужа:

— Што б ты без мяне, Ванечка, зрабіў?

— Не ведаю, — адказвае муж.

— Але прыемна аб гэтым падумаць.

* * *

Дзеці пытаюць марака:

— Дзядзька, а вы ў Аўстраліі бачылі якога-небудзь звера?

— А як жа! Слана бачыў.

— Але ж там сланы не водзяцца.

— Дык бачыце самі, якое шчасце я там меў.

* * *

— Хлопцы, хто акно разбіў?

— Я, але вінаваты Франак.

— Як гэта?

— Бо ён адхіліўся.

## Пазнаёмімся

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Волаха, 57, кв. 19. Лена Чыгірова, вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

БССР, 220116 г. Мінск — 116, пр. Любімава, 46, к. 1, кв. 16. Оля Броднікава, вучыцца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 220116 г. Мінск — 116, пр. Любімава, 46, к. 1, кв. 156. Марына Кручыніна, вучыцца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Лермантава, 17, кв. 40. Света Рыжыкава, вучыцца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Лібкнехта, 94, кв. 55. Света Марозава, вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220116 г. Мінск — 116, пр. Любімава, 46, к. 1. кв. 198. Іра Паплеўка, вучыцца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Волаха, 51, кв. 42. Ігар Кубека, вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Волаха, 47 кв. 35. Косця Браўцоў, вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 9 кв. 74. Лена Цыганкова, 12 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 5, кв. 73. Лена Казлоўская, 11 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Волаха, 29, кв. 22. Ніна Грыцкевіч, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. вул. Волаха, 37, кв. 61. Галіна Маслоўская, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 95, кв. 6. Света Лапко, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Волаха, 10, кв. 31. Каця Прыднік, вучаніца 3 класа.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ленина, д. 13, кв. 44 Привиденцевой Любе.

## Пішуць школьнікі

### ПАВАЖАНАЯ „ЗОРКА“!

Дзякуем за прысланыя нам фатаграфіі і пісьмо. Яно нас вельмі абрадавала. Мы хацелі да Цябе даўно ўжо напісаць, толькі ніяк не маглі прыбрацца. Наш клас часта ўспамінае сустрэчу з Табою.

Цяпер некалькі слоў аб нас. У нашым класе 15 вучняў. Мы вельмі любім спяваць і гуляць. Часта арганізуем школьныя дыскатэкі. Займаемся таксама спортам. Свае зацікаўленні развіваем у розных гуртках.

Дарагая „Зорка“! У нас да цябе просьба. Прышлі, калі ласка, негатыў фатаграфій, якія мы атрымалі ад цябе.

На гэтым канчаем наша пісьмо. Другое будзе даўжэйшае. Жадаем Табе, „Зорачка“, далейшых поспехаў.

**З паважаннем васьмікласнікі са Ст. Корніна.**

**АД „ЗОРКІ“:**

*Вельмі прыемна мне было атрымаць ад вас пісьмо. Чакаю наступных. Негатыва прыслаць не магу: ён не захаваўся. Абяцаю вас наведаць вясною. Зноў з фотаапаратам. Жадаю добрага сяброўства і адных пяцёрак.*

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Пашукай, ад якога здымка пададзены побач негатыў.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## ПРАНЫРА

Крапівой бы, пякучай яго,
а не вершамі!
Пустамеля, а... лезе
не менш, чым у першыя.
Знае: сціплы змаўчыць,
адмахнецца разумны.
Ну, а свет, добры свет?
Ён вялікі і тлумны.
Ён не ўсочыць за кожным...
О! Як гэта ўсцешвае
Тых, хто лезе з-пад рук
з неўтамоннасцю ў першыя!
Пакуль ты без аглядак
нястомна стараўся,
Ён, зірні ўжо...
далёка наперад прарваўся.
Чарнату забяліўшы
бялюткай парошаю,
Як працяг, нешта новае
зноўку выношвае.
А каб стала лягчэйшай
дарога даўтая,
Ён рабочых валоў
у свой воз прыпрагае.
Абяцаннямі іх
заціскае, што дзягаю, —
І яны важкі воз
на сухое выцягваюць.
Сціплы ўбачыць — змаўчыць,
адмахнецца разумны.
Ну, а свет, добры свет?..
Ён вялікі ж і тлумны.
Ён не ўсочыць за кожным.
Дый ён не высочвае.
А такія ў абход:
дзе наўкос, дзе абочынай.
У абход — да выгод,
да цяпла, як у вырай...
Стаўце ж плот, моцны плот
загародай пранырам!

Алесь Бачыла



# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі.




— Сынок, чаму ты сам не прынёс дзённік?

### УДАКЛАДНІЎ

Сын бацьку:
— Тата, які я, калі п'яны?
— А чаму гэта цябе так цікавіць?
— Ды жонка кажа, што тады я — як парнакапытны.
— Гэта яна па-сямейнаму, а па-людску — то як свіння.

### ДОБРЫЯ

На шлюбаразводным працэсе сведак заявіў:
— Аб паводзінах сваіх суседзяў нічога дрэннага сказаць не магу. Біліся заўсёды моўчкі, без шуму.

### ОЙ, БАБУЛЯ!

Аліку 6 год. Бабуля запрашае яго за стол, а ён падыходзіць са словамі:

— Бабуся, вы мне столькі даеце, што ў мяне апетыту можа не хапіць!




На змаганнях эрудытаў выступаў у найлепшай мазговай катэгорыі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пацярпеўшы ў аўтамабільнай катастрофе расказвае лекару:
— Хоць я часам і траціў прытомнасць, але мне хацелася есці і я адчуваў холад у нагах, таму я разважыў, што жывы.
— А як вы разважылі?
— Калі б я памёр, то трапіў бы ў рай або ў пекла. У раі я не быў бы галодны, а ў пекле ў мяне б не мерзлі ногі.

*

Дама звоніць да электрыка:
— Я прасіла вас учора прыйсці папраўіць званок!
— А я быў у вас!
— Але я нікуды не выходзіла.
— Я прыйшоў, пазваніў, мне ніхто не адчыніў, і я пайшоў.

*

На новай лічыльнай машыны было напісана: „Наша канструкцыя настолькі простая, што на ім зможа лічыць нават дырэктар".

### ВЫЯВІЛАСЯ

— У нашым новым рэферэнце дрэмле вялікі арганізатарскі талент.
— А я і думаю, чаму ён увесь час такі сонны?

### ІНТЭРВ'Ю

— Чым вы займаецеся зімою?
— Набіраю сілы для вясенніх проігрышаў, — адказаў футбаліст.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### У СВЕЦЕ КНІГ

Вышаўшая ў выдавецтве „Наведанне" масавым тыражом Кніга адыходаў і прыходаў супрацоўнікаў атрымала залаты медаль на міжнародный кніжнай выстаўцы.

**СПОРТ**

Малады баксёр Л. Хук у цёмным кутку адлупцаваў невядомага грамадзяніна. Пасля прасіў суддзю палічыць тую сустрэчу таварыскай.








— Дужа шкадую, але без гальштука ўваход забаронены, сэр!

# Курёзы

### ЗВЯРЫ І ПАЛІЦЫЯНТЫ

Непадалёку ад Неапаля (Італія) размешчаны склад звадкаванага газу. Аб'ект гэты можа быць вельмі небяспечны, калі дрэнна будзе пастаўлена ахова. І вось аднойчы паліцыя, вырашыўшы праверыць стан варты склада, адразу ж упэўнілася, што ахова тут больш чым надзейная. Насустрач паліцэйскаму нараду выйшлі два вялізныя пагрозліва рыкаючыя львы. Паліцэйскія задалі лататы, пакуль іх не аклікнуў вартаўнік: „Не бойцеся, я іх стрымаю". Аказваецца, у свой час вартаўнік купіў у вандроўнага цырка двух ільвянятшчанюкоў, выгадаваў іх і прывучыў дапамагаць яму ахоўваць даручаны аб'ект. І усё ж паліцэйскія не даравалі звярам свайго спалоху. Яны загадалі гаспадару перадаць яго выхаванцаў мясцоваму заалагічнаму саду.

Не цяжка ўявіць, як бы заступіліся за свайго руплівага гаспадара перад самадурамі-паліцэйскімі самі львы, калі б усвядомілі, хто іх разлучыў з любімым чалавекам. Бадай, куды больш жорстка, чым чацвераногія выхаванцы аднаго заходнегерманскага цырка. Гэта надарылася ў Вене, куды цырк прыехаў на гастролі. Двое дрэсіроўшчыкаў неяк пасварыліся паміж сабою і пачалі моцна лаяцца. Іх сланы недаўменна пераглядваліся паміж сабою, але не ўмешваліся ў канфлікт. Затое ж калі на крык прыбеглі паліцэйскія, каб развесці скандалістаў, сланы проста прагналі іх, паліваючы вадой.

# Між намі

Не зайздросць пайшоўшаму ў гару — можа, гэта Сізіф.